18 кастрычніка 2019 | № 39 (650)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







Зноў у крызіс?
Стар. 3

4 «КОЖНУЮ СЕКУНДУ СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ЁН ЖЫВЫ»

«Пакуль не ўбачу цела сына, не паверу, што ён мёртвы», — кажа Тамара Мікалаеўна, маці асуджанага да смяротнага пакарання Паўла Селюна



5 – 8



ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ

9 СЦЕРАЖЫЦЕСЯ КЛОЎНА

Калі верыць шматлікім заходнім медыя, увесь свет знаходзіцца на парозе хвалі гвалту і тэрору, які правакуе фільм «Джокер»



10 – 11 ЖАЛЕЗАМ (І КАМЕНЕМ) ПА ШКЛЕ

У 1935 годзе і пасля па Польшчы пракацілася цэлая хваля яўрэйскіх пагромаў. Адной з прычынаў, як лічаць гісторыкі, стала смерць маршалка Пілсудскага, які цвёрдай рукой стрымліваў як «левых», так і «правых»

# Ці будзе ў ІТ-універсітэце ІТ-БРСМ?



Сяргей ПУЛЬША

**У Беларусі можа з'явіцца ІТ-універсітэт. А можа і не з'явіцца. Прычым другое — больш верагоднае, чым першае. І ў любым выпадку, наўрад ці з'яўленне ці нез'яўленне падобнай ВНУ — нешта змяніць у айчыннай сістэме адукацыі ўвогуле.**

Як ні дзіўна, але праблемы беларускай адукацыі абмяркоўваліся на нарадзе па развіцці лічбавай сферы Беларусі. Парк высокіх тэхналогій пакуль дзейнічае даволі паспяхова — прынамсі, яго экспарт за 2018 год вырас на 38% і склаў 1,414 мільярда долараў. А таму, па меркаванні некаторых прыхільнікаў ІТ-сферы, трэба нарошчваць колькасць праграмістаў, і для гэтага патрэбны ІТ-ВНУ. А лепш — вучыць «кодэраў» яшчэ са школы, для чаго прыватныя (пакуль толькі прыватныя) школы перавесці ў ранг «эксперыментальных пляцовак» пры ПВТ.

Па выніках гэтай сустрэчы адзін з яе ўдзельнікаў — вядомы ІТ-бізнесовец Віктар Пракапеня — высунуў шэраг ідэяў. Напрыклад, дазволіць спонсарскую дапамогу ва ўстановах адукацыі па спрошчанай схеме, выявіць бюракратычную дакументальную нагрузку на педагогаў, правесці незалежны аўдыт дакументазвароту ў сістэме адукацыі, прыбраць раённыя аддзелы адукацыі, даць кожнай школе свой баланс, рахунак у банку, абавязаць публікаваць справаздачнасць...

«Падняць настаўнікам заробак: сярэдняя зарплата настаўніка — 886 рублёў. Сярэдні заробак у краіне — 1117 рублёў. Трэба 186 мільёнаў долараў на год, каб падняць зарплату настаўнікаў да сярэдняй у краіне. Па сусветным досведзе — як толькі заробак настаўніка становіцца роўным сярэдняму, сістэма адукацыі якасна мяняецца», — напісаў Пракапеня ў Фэйсбуку. На думку бізнесоўца, неабходна зрабіць празрыстым прэміраванне педагогаў, укараніць у школах дыстанцыйную адукацыю і максімальна аблічбаваць навучальны кантэнт, увесці раннюю прафілізацыю. І гэтак далей.

Што тычыцца ІТ-універсітэта, які плануюць запусціць у наступным годзе, то ёсць вялікія сумневы ў рэалізацыі задуманага. Найперш — гэтая ідэя не новая. Рэзідэнты ПВТ пра нешта падобнае казалі з таго часу, як Лукашэнка падпісаў знакаміты дэкрэт аб развіцці лічбавай эканомікі. Але ўсё ўпіраецца ў Міністэрства адукацыі. Мінадукацыі патрэбныя вучэбныя планы, штатны расклад, распрацаваныя праграмы навучання, метадычныя матэрыялы і да халеры чаго яшчэ. Зацвярджэнне падобных дакументаў займае багата часу, а ІТ-сфера змяняецца вельмі хутка. Таму, калі міністэрства ўсё ж зацвердзіць неабходныя дакументы — яны папросту састарэюць. І ў гэтым была праблема таго, што ў нас дасюль не з'явілася ІТ-ВНУ.

У некаторых увогуле ёсць сумневы ў патрэбе такой установы. Напрыклад, эканаміст Сяргей Чалы мяркуе, што замест ІТ-ВНУ ў нас будзе створана ІТ-ПТВ, якое будзе выпускаць кадры для кампаній ПВТ — так бы мовіць, «ПТВ для ПВТ». І нагадвае: першапачаткова ПВТ ствараўся з мэтай павышэння канкурэнтаздольнасці іншых галін гаспадаркі. Аднак на ўсёй астатняй гаспадарцы гэта не адбілася: ПВТ ператварыўся ў такі «ІТ-афшор», які «кляпае код» ці не выключна для замежных заказчыкаў.



**Каб сістэма адукацыі зрабіла «якасны скачок», трэба зусім іншая сістэма адукацыі**

Сапраўды, пакуль ад ПВТ краіна не дачакалася нейкага прарыву ў лічбавых тэхналогіях. Не кажу ўжо пра «лічбавы ўрад» альбо тэхналогію блокчэйну ў «народнай гаспадарцы»: у гімназіі, куды ходзіць мая дачка, так і не працуюць электронныя дзённікі. У той жа гімназіі (не апошняя ў Мінску, дарэчы) запускалі, дый так і не запусцілі электронную сістэму ўваходу па картцы навучэнца. А ў Гомелі на мінскую карту навучэнца (сумешчаную з банкаўскай карткай бацькоў) кантралёры ў транспарце глядзяць вялікімі вачыма — там дагэтуль у вучняў папяровыя даведкі са школы...

Ці не трэба спачатку давесці да ладу тое, за што ўзяліся, перш чым пачынаць чарговыя «рэформы адукацыі»?

І ўжо дакладна не варта чакаць, што як толькі заробак настаўніка будзе роўны сярэдняму заробку па краіне, наша адукацыя зробіць якасны скачок наперад. Знайсці для настаўнікаў тыя 186 мільёнаў долараў на год, пра якія казаў спадар Пракапеня, не праблема — дастаткова не правесці нейкія «Еўрапейскія гульні» (яшчэ і рэшта застанецца). 200 мільёнаў долараў — гэта «слёзы для краіны», цытуючы Аляксандра Рыгоравіча.

Праблема ў іншым. Каб сістэма адукацыі зрабіла «якасны скачок», трэба зусім іншая сістэма адукацыі. Трэба іншыя настаўнікі, каб яны не «дзяўблі» навучэнцам школьную праграму, змяшаную з «дзяржаўнай ідэалогіяй», а навучалі думаць, аналізаваць, рабіць высновы. Тыя, хто не будзе заганяць школьнікаў на хакейныя «Калядныя турніры», а студэнтаў — на датэрміновае галасаванне. І хто сам не пойдзе фальсіфікаваць вынікі выбараў пры падліку галасоў. Трэба, каб сістэма адукацыі была сістэмай адукацыі, а не сістэмай штампавання пакорлівага і лаяльнага насельніцтва.

Але гэта для ўлады ўжо небяспечна. Уладзе патрэбныя «вінцікі сістэмы», а не грамадзяне краіны. Нездарма ж Сінявокая наўпрост ігнаруе стандарты Балонскага працэсу — асабліва ў сістэме самакіравання тых жа ВНУ.

Што ж да ўласна новага ўніверсітэта... Можна быць упэўненым — як толькі ў краіне з'явіцца ІТ-універсітэт, у ім жа з'явіцца ІТ-ідэолагі, ІТ-прарэктары па выхаваўчай працы і ІТ-суполкі БРСМ. А тады — навошта ён такі?

# Прамовіў «Не заводу АКБ!» — атрымаў пратакол і штраф

**Суд Брэсцкага раёна 14 кастрычніка разгледзеў адміністрацыйную справу экалагічнага актывіста Канстанціна Астапука.**

Яшчэ ў сярэдзіне жніўня хуліган збіў экаактывістку Марыю Галалюк на прахадной завода «АйПаўер». Па факце здарэння туды пад'ехалі некалькі неабыякавых жыхароў Брэста. Канстанцін Астапук прывітаў аднаго са знаёмых словамі: «Не заводу АКБ!»

Вось гэтае прывітанне і паслужыла падставай для складання пратаколу адміністрацыйнага правапарушэння. Справу разглядаў суддзя Сяргей Маручак.

Астапук патлумачыў суду, што калі да завода падышоў Аляксандр Абляк, ён прывітаў яго па беларуску: «Не — заводу АКБ!». Ніякага мітынгу не было.

«У гэты дзень меўся быць апошні дзень працы завода. Я прыехаў пракантраляваць, як выконваецца распараджэнне ўладаў. Рабочыя як ездзілі, так і ездзяць, Астапук прыехаў апошні. Я вёў старым, здымаў, каб паказаць, як выконваецца ўказанне галоўнага архітэктара. Браў інтэрв'ю, каб высветліць стаўленне людзей да таго, што адбываецца. Прысутных візуальна ведаю, але па прозвішчах не ўсіх... Была аб'ява архітэктара і навіна, што збілі Марыю, таму людзі і сабраліся. Людзі сабраліся на пачатак працоўнага дня, хто раней, хто пазней, пару чалавек засталося дзяжурыць», — распавёў суду Дзяніс Малышэнка.

З матэрыялаў справы: «Выкарыстоўвалася сімволіка, гукавыя прылады, знаходзілася група грамадзян, якая выказвала свае адносіны да завода АКБ, некаторыя праводзілі фота і відэаздымкі, было каля 30 чалавек».

Міліцыянер распавёў: «Была група грамадзян, супрацьпраўных дзеянняў не было».

Астапук прасіў суд апраўдаць яго, вынесці справядлівае рашэнне.

Суддзя абвясціў пастанову: 30 базавых велічынь штрафу, альбо 765 рублёў.

Дарэчы, 10 кастрычніка, судзілі Аляксандра Аўтуховіча — мужчыну, які 14 жніўня каля прахадной акумулятарнага завода збіў актывістку «свінцовай варты» Марыю Галалюк. Яго пакаралі штрафам у 306 рублёў. Актывістка тады атрымала закрытую чэрапна-мазгавую траўму, іншыя пашкоджанні. Суддзя Сяргей Маручак прызнаў Аляксандра Аўтуховіча вінаватым і аштрафаваў яго ўсяго на 12 базавых велічыняў (306 рублёў) у даход дзяржавы (санкцыя артыкулу прадугледжвае штраф ад 10 да 30 базавых).

**Паводле spring96.org**

# Будзе адстаўка Карпенкі?

Руслан ГАРБАЧОЎ

**Ігар Карпенка сутыкнуўся з новым узроўнем прэсінгу: цяпер яго крытыкуе не толькі Аляксандр Лукашэнка, але і набліжаныя да кіраўніка краіны бізнесоўцы.**

Увесь гэты год былы лідар беларускіх камуністаў раз за разам трапляе пад агонь крытыкі кіраўніка дзяржавы. Спачатку Карпенку некалькі разоў дасталася за змест школьных праграмаў, якія, на думку Лукашэнкі, з аднаго боку перагружаныя, а з другога — не арыентаваныя на практыку («Слухайце, палову курса — чарвякі!»).

Пасля была вымова за трагедыю ў Стоўбцах і крытыка за рашэнне міністра ўвесці ў школах новыя пасады адказных за бяспеку («Не трэба пажар тушыць бензінам»).

Затым адбыўся скандал у Гомелі, дзе на відэа знялі настаўніцу, што нецэнзурна лаялася. Лукашэнка асабіста ўмяшаўся, абурыўшыся рашэннем чыноўнікаў ад адукацыі звольніць педагога.

І вось кіраўнік дзяржавы зноў выказаў незадаволенасць працай міністра. Як вынікае з допісу ІТ-бізнесоўца Віктара Пракапені аб удзеле ў нарадзе 14 кастрычніка, кіраўнік краіны «падкрэсліў, што ў адукацыі бардак, і, калі гэта не будзе выпраўлена, то хутка ў міністэрства адукацыі будзе новы міністр».

Словам Пракапені можна верыць, у тым ліку таму, што гэта — не першая пагроза Лукашэнкі на адрас Карпенкі. Яшчэ ў пачатку года кіраўнік дзяржавы казаў, што трэба «вельмі сур'ёзна» заняцца адукацыяй, і «калі міністр гэтага не зразумеў, значыць, ён не міністр».

Цяпер сітуацыя для Карпенкі пагоршылася, паколькі з уплывовых людзей яго крытыкуе не толькі Лукашэнка, які часам можа сарвацца на кім заўгодна. Але яшчэ, як мінімум, ІТ-бізнесоўцы, да прапановаў якіх кіраўнік дзяржавы, як правіла, прыслухоўваецца. Да таго ж гучыць не агульная крытыка, у Пракапені ёсць канкрэтны план змяненняў у сферы адукацыі.

А ў хуткім часе на чале з Лукашэнкам адбудзецца нарада пра механізмы ўдасканалення ў сістэме адукацыі.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Пабудаваць ІТ-краіну ІТ-зайцоў

Ганна СЕВЯРЫНЕЦ

**Дзіўна, але хвосткія, аптымістычныя і ўвогуле бадзёрыя прапановы бізнесоўца Віктара Пракапені па рэфармаванні сістэмы адукацыі ў Беларусі выклікаюць у мяне трывогу і тугу.**

Здавалася б: што не так? Сярод дваццаці пунктаў, што разышліся імклівай хваляй па старонках беларускіх СМІ, здаецца, няшмат спрэчнага: ліквідаваць непатрэбныя бюракратычныя структуры ў кіраванні адукацыяй, правесці незалежны аўдыт дакументазвароту, падняць заробкі настаўнікам, дазволіць спонсарскую дапамогу школам па спрошчанай схеме. Гэта трэба было зрабіць яшчэ пазаўчора.

Некаторыя з пунктаў, канешне, выклікаюць недаўменне: кшталту найму іншаземных аўтараў для падрыхтоўкі беларускіх падручнікаў, арганізацыі дыстанцыйнага навучання і нейкага патаемнага софту і сертыфікатаў, якія школы павінны будуць без дадатковых пытанняў браць ад спонсараў (можа, лепш грашыма, а не софтам і сертыфікатамі, а, панове?).

Два пункты асабіста ў мяне выклікалі здаровы смех: наконт апублікавання прэмій педагогаў і ранняй прафілізацыі. Адзін пункт — успрыняўся злачынствам: наконт льготных крэдытаў на ІТ-навучанне. Усё як заўсёды: нешта прымаеш, нешта — не. Усё ў межах здаровага сэнсу і крытычнага засваення чужой думкі, але агулам — сум і туга.

Бо гэтыя прапановы, як і шмат іншых сучасных рэфарматарскіх прапановаў, выглядаюць на анекдатычную сітуацыю ў кабінеце доктара: калі ты прыходзіш да яго са скаргамі на болі ў сэрцы, а ён табе кажа: хм, болі ў сэрцы? Я гляджу, у вас ад гэтага валасы пагоршыліся, вось вам рэцэпт, будзеце ўціраць у галаву вітамінчык Д.

Бо канцэптуальна ўсе гэтыя прапановы — вітамінчык Д, прапісаны чалавекам, які добра разбіраецца ў валасах, але дрэнна — у мітральных клапанах. Гэта прапановы чалавека бізнесу, больш за тое — чалавека бізнесу айці. Так, яны спросцяць шлях таленавітых дзяцей да кадравых службаў айцішных кампаній. Так, яны спросцяць працэс ранняга адбору і якаснай падрыхтоўкі новых айцішнікаў для ПВТ. Мімаходзь яны вырашаць некаторыя праблемы адукацыі ўвогуле, кшталту двайнога падпарадкавання школ і заробкаў у сферы. Але яны ніяк не тычацца таго, на што хварэе наша адукацыя.

Болей за тое. Спроба рэфармаваць адукацыю пад патрэбы бізнесу і па ўзорах бізнесу (любога, не толькі айцішнага) — справа смяротна небяспечная для адукацыі.

У нас ужо такім чынам «забілі» вышэйшую школу, калі падпарадкавалі акадэмічную адукацыю патрэбам прамысловасці. Цяпер у Беларусі не існуе моцнай, мадэрнізаванай, сучаснай філасофіі, сацыялогіі, метадалогіі, гуманітарыстыкі — бо яны, на думку нашых рэфарматараў, наогул ніякага дачынення да прамысловасці. Простая думка пра тое, што любая прамысловасць і навука для яе пачынаецца з філасофіі, метадалогіі, сацыялогіі і наогул гуманітарыстыкі — яна не прыходзіць нашым рэфарматарам у галаву.

Вузка ўсвядомленая практыкаарыентаванасць нашай навукі, адсутнасць фундаментальных тэарэтычных пошукаў, парушаныя сувязі паміж кафедрамі і інстытутамі, кожны з якіх працуе не на навуку агулам, а на канкрэтную вузкую практычную задачу — усё гэта забіла навуку вышэйшых дасягненняў. Цяпер даб'е і школу.

Праблема нашых дзяцей не ў тым, што яны не маюць доступу да айці-ведаў і падручнікаў, напісаных замежнымі спецыялістамі. Праблема нашых дзяцей не ў тым, што школы падпарадкоўваюцца выканкамам. Праблема нашых дзяцей не ў тым, што яны не здольныя прафарыентавацца ў пятым класе.

Праблема нашых дзяцей у тым, што яны развучыліся ўспрымаць тэксты, выдзяляць галоўнае і другараднае, аналізаваць і сінтэзаваць, разумець адрозненне выказанай думкі і свайго ўспрыняцця гэтай думкі, крытычна засвойваць веды і выбудоўваць сістэму ўласных прыярытэтаў.

Доўгае, метадычнае выганне непрактычных, танных, бізнес-непаспяховых гуманітарных ведаў з беларускай адукацыі сёння даюць свой плён. Дзеці, якія развучыліся ўспрымаць тэксты (любога кшталту, і мастацкія, і навуковыя, і тэхнічныя), нарадзілі сваіх дзяцей і прывялі іх у школы з адной мэтай: навучыце нас айці, бо ў айці шмат зарабляюць.

Але гэта так не працуе. Можна і зайца навучыць праграмаваць, асабліва як даць яму льготны крэдыт і софты з сертыфікатамі ў якасці спонсарскай дапамогі. І пабудаваць ІТ-краіну ІТ-зайцоў. Але ці гэтага мы прагнем ад адукацыі?

Школьная адукацыя павінна даваць чалавеку пэўны набор фундаментальных, базавых навыкаў і ўменняў. Найперш: разумець напісанае, аналізаваць яго, абагульняць, усведамляючы цераз практыку тэарэтычныя законы існавання розных сістэм, успрымаць праз уласны досвед і выкарыстоўваць для рашэння практычных задач рознай якасці. Гэта выключна гуманітарныя навыкі. Перш чым прафілізавацца, чалавек мае права навучыцца якасна думаць. Вось куды павінны ісці ўсе высілкі рэфарматараў. Астатняе дзеці зробяць самі. Ані школа, ані ВНУ не могуць і не павінны быць паспяховымі бізнес-праектамі: навучанне думанню — справа надта доўгая, энерга- і фінансава ёмкая.

Прымушаць школы зарабляць грошы, арыентаваць адукацыю на атрыманне грошай, уводзіць раннюю прафілізацыю дзеля будучых высокіх заробкаў, наогул матываваць да навучання грашыма — тупіковы і павярхоўны шлях. Чалавек, што ідзе ў дарослае жыццё зарабляць грошы, будзе зарабляць грошы. Чалавек, што ідзе ў дарослае жыццё думаць і ствараць, будзе думаць і ствараць. Грошы — гэта заўсёды толькі адзін з вынікаў, але не мэта, прынамсі ў адукацыі.

Нашае грамадства — і, адпаведна, школа — хварэе на недахоп гуманітарных ведаў, уменняў і навыкаў. Таму мы ніяк не вызначымся, хто мы, з кім мы, каго мы плануем вучыць, якія дакументы мы плануем запаўняць, кім нам быць і дзеля чаго жыць. Не, мы можам усе стройнымі шэрагамі пайсці ў айці, чарговымі рабамі чарговых буйных кампаній, але гэта зноў шлях у нікуды.

Калі б у мяне спыталіся пра мае пункты рэфармавання адукацыі, першымі там былі б пункты наконт рэзкага павелічэння гуманітарнага складніку ў навучальных праграмах малодшай і сярэдняй школы: мовы, літаратуры, гісторыя Беларусі і сусветная, грамадазнаўства, псіхалогія. Пераарыентацыя фінансавання ў вышэйшай школе на карысць фундаментальнай, тэарэтычнай навукі, і супрацоўніцтва школ і ВНУ — і не па лініі афармлення школьных навуковых работ па правілах дысертацый, а па лініі агульнага пошуку і карыстання агульнымі напрацоўкамі, вучнёўскім імпэтам і дарослай мудрасцю.

Буйныя праекты ў сферы гуманітарыстыкі. Позняя прафілізацыя на грунтоўным падмурку агульнай глыбокай гуманітарнай падрыхтоўкі вучня, калі ён валодае навыкамі спасціжэння якіх заўгодна навук — бо і хімію, і фізіку, і біялогію можна вывучыць значна хутчэй і значна паўней, калі ты прымешся за іх у дзявятым класе, але будзеш валодаць агульнымі ўменнямі вучыцца. І ўжо тут, у старэйшых класах, маючы нармальны гуманітарны ўзровень, можаш хоць назаўсёды выкінуць са сваіх раскладаў і літаратуры, і гісторыю, і грамадазнаўства дзеля свайго айці. Закладзеныя веды і навыкі ты ўжо не страціш.

Праўда, вангую, што такія мае прапановы выклічуць у кагосьці трывогу і сум. Няхай. У справе рэфармавання адукацыі галоўнае — як след паспрачацца, абмеркаваць і напрацаваць розныя варыянты бачання. А там ужо вырашаць. Пажадана — разам.

**svaboda.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Зноў у крызіс?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Эканоміка Беларусі ўпадае ў чарговую стагнацыю. Што не дзіўна, бо пасля апошняга крызісу 2014 года ў нас толькі адно дасягненне — дэнамінацыя. У астатнім усё засталося як было, а «было» не вельмі добра.**


Фота www.bitbet.news

Пра стагнацыю пачалі казаць пасля прамовы прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Румаса, які канстатаваў запаволенне тэмпаў росту нацыянальнай эканомікі да 1% па выніках студзеня-верасня 2019 года. «Учора атрыманыя папярэднія вынікі працы эканомікі за 9 месяцаў — рост працягвае запавольвацца — папярэдне 101% па выніках студзеня-верасня. І гэта нягледзячы на дзяржаўную падтрымку і запэўніванні кіраўнікоў міністэрстваў, што зацверджаныя планы будуць выкананыя», — заявіў Румас на пасяджэнні прэзідыума Саўміна ў аўторак у Мінску.

Прэм'ер таксама падкрэсліў, што «сітуацыя з экспартам па выніках студзеня — жніўня 2019 года няпростая і не можа задавальняць». Па яго словах, за 9 месяцаў экспарт тавараў у параўнанні з мінулым годам знізіўся на 3,1%, у сувязі з гэтым у прэм'ера «шмат пытанняў да міністраў, губернатараў, сур'ёзна недапрацоўвае Міністэрства замежных спраў і кіраўнікі замежных прадстаўніцтваў», — лічыць Румас.

Ён таксама падкрэсліў зніжэнне ўзроўню дыверсіфікацыі экспарту: «Не ўдаецца размеркаваць пароўну экспартныя пастаўкі паміж ЕАЭС, ЕС і іншымі краінамі. Павялічылася доля ЕАЭС, асела доля Еўрапейскага саюза. Тут вялікі ўплыў аказала нафта, асабліва ў частцы еўрапейскага рынку, аднак гэта не адзіная прычына».

«Калі няма вытворчасці, як можа расці экспарт? Гэта ўзаемазвязаныя пытанні. Кіраўнікі павінны несці адказнасць за свае словы і абавязацельствы», — падкрэсліў Румас.

Складваецца ўражанне, што наш прэм'ер вырашыў апярэдзіць кіраўніка дзяржавы з аналагічным разносам. Прычым, як і яго кіраўнік, Румас знаходзіць вінаватых там, дзе трэба і дзе не трэба. Па яго словах, «няма вытворчасці», і ў той жа час ён наракае на Міністэрства замежных спраў, што тыя «недапрацоўваюць па экспарце». Па-першае, калі «няма вытворчасці», то і МЗСу прадаваць няма чаго, а па-другое, займацца гандлем — зусім не справа знешнепалітычнага ведамства. У яго і сваіх праблемаў хапае, кшталту не падпісанага пакуль візавага пагаднення з ЕС і пагрозы страты Мінска як перамоўнай пляцоўкі па сітуацыі ва Украіне.

У любым выпадку, заклінаннямі і разносамі справе не дапаможаш. Дапамагло б разняволенне дзелавой ініцыятывы, але дзе ж яе возьмеш без згоды «на самым версе»?

Варта пры гэтым нагадаць, што праблемы росту беларускай эканомікі ў нас хранічныя. У 2018 годзе ВУП Беларусі павялічыўся на 3% (пры прагнозе 3,5%), у 2017 годзе ВУП вырас на 2,4%. Урад краіны ў мэтавым макрапрагнозе на 2019 год разлічваў на рост ВУП на ўзроўні 4%. Але ўсе казалі, што гэта занадта аптымістычна і… занадта мала. Бо, пасля шэрагу крызісаў 2011–2014 гадоў наш ВУП «прасеў» працэнтаў на 40. А таму, для аднаўлення хаця б страчаных пазіцый, трэба было мець па 10% росту ВУП на год.

Але ж мы багатыя для Еўразійскіх гульняў! Той жа самы Румас замест эканомікі займаўся Еўрагульнямі. Прынамсі, «на яго пастаянным кантролі», як казаў ён 6 лютага, знаходзіліся «гэтыя важныя для нас спаборніцтвы». А калі прэм'еру важныя спартовыя спаборніцтвы — дык чаго чакаць ад эканомікі?

Між тым, далей будзе горш. Міжнародны валютны фонд, які зазвычай больш цвяроза, чым урад, ацэньвае нашу сітуацыю, рэзка пагоршыў прагноз па росце эканомікі Беларусі ў 2020 годзе. Прычым «рэзка» — мяккае слова, больш пасуе «катастрафічна». Бо раней рост ВУП на наступны год МВФ планаваў на ўзроўні 2,2%, а зараз — 0,3%!

У студзені гэтага года Міжнародны валютны фонд таксама падкрэсліваў, што ў сярэднетэрміновай перспектыве тэмпы эканамічнага росту ў Беларусі могуць быць істотна ніжэй за 2% у выпадку адсутнасці кампенсацыі стратаў у выніку рэалізацыі падатковага манеўру ў Расіі. Адсутнасць такой кампенсацыі эксперты МВФ лічаць асноўнай рызыкай для беларускай эканомікі ў цяперашні час. У прынцыпе, пакуль эксперты гэтай фінансавай арганізацыі маюць рацыю.

Таксама МВФ удакладніў прагноз па інфляцыі ў Беларусі. Паводле ацэнкі фонду, у 2019 годзе інфляцыя складзе 5,4% (раней чакалася 5%), у 2020 годзе — 4,8%.

Акрамя таго, мы паступова ўваходзім у яшчэ адну пастку для эканомікі. Мала таго, што ў нас «няма вытворчасці» — дык хутка і вытвараць не будзе каму. Беларусь апынулася на парозе сур'ёзнага дэмаграфічнага крызісу.

Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у Беларусі ў 2018 годзе нарадзілася 94,042 тысячы чалавек, што з'яўляецца мінімальным паказчыкам за апошнія 13 гадоў. У бягучым годзе, на жаль, чакаецца чарговае абнаўленне антырэкорду: паводле Белстата, колькасць народжаных у першым паўгоддзі 2019 года зменшылася ў параўнанні з аналагічным перыядам папярэдняга года на 4,171 тысячы чалавек, або на 8,9%. У выпадку, калі ў бягучым годзе ў Беларусі народзіцца менш 88,5 тысячы чалавек, то будзе абноўлены мінімальны паказчык нараджальнасці аж з 1950 года!

Калі такая хуткасць падзення нараджальнасці захаваецца, то ўжо літаральна праз 11 гадоў колькасць народжаных будзе ніжэй за колькасць памерлых!

Як паведамляюць з гэтай нагоды некаторыя СМІ, падзенне нараджальнасці адбываецца «на фоне дэградацыі традыцыйных сямейных каштоўнасцяў і негатыўных з'яваў у сацыяльнай і эканамічнай сферы».

Пра «традыцыйныя сямейныя каштоўнасці» мы, бадай, прамаўчым, і не будзем згадваць «міс Беларусь» Марыю Васілевіч, якая неаднойчы была заўважаная ў кампаніі афіцыйна жанатага мужчыны з вусамі. А вось што да сацыяльна-эканамічнага складніку — тое сапраўды так. Некалькі нумароў таму мы пісалі, што паўмільёна беларусаў жывуць за рысай беднасці, а больш за 4 мільёны — выжываюць ад заробку да заробку. Якія ўжо тут дзеці?

І пакуль выйсця з гэтай сітуацыі не бачна, бо жывем мы — не па сродках. Нам чарговым разам паказаў гэта Кільскі інстытут сусветнай эканомікі. Паводле яго дадзеных, Беларусь апынулася ў трыццатцы галоўных даўжнікоў Кітая разам з паловай Афрыкі і Чарнагорыяй. Доўг нашай краіны перад Кітаем складае больш за 10% ВУП.

А ёсць яшчэ і Расія. Так што, наперадзе — дэфолт?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Паліенка

**Сацыяльны актывіст дамогся адкрытага судовага працэсу над сабой вельмі радыкальным чынам. У залі суда ён паспрабаваў ўскрыць сабе вены.**

Першапачаткова абвяшчалася, што пасяджэнне, якое пачалося ў Мінскім гарадскім судзе 17 кастрычніка, будзе праходзіць у закрытым рэжыме. Але, пасля ўчынку Паліенкі, суд вырашылі зрабіць адкрытым. У залу пасяджэнняў дапусцілі прэсу і праваабаронцаў.

Хлопца абвінавачвалі адразу па чатырох артыкулах КК: «Псаванне маёмасці ў грамадскім месцы» (арт. 341), «Публічная абраза прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў» (арт. 369), «Распальванне сацыяльнай варажнечы» (ч. 1 арт. 130), «Асабліва злоснае хуліганства» (ч. 3 арт. 339) — за самаабарону ад нецвярозага мужчыны, якому Паліенка пырснуў у твар газавым балончыкам.

Як высветлілася ў час суду, пракуратура адмовілася ад трох з чатырох абвінавачванняў: Паліенку судзяць толькі за «распыленне пярцовага газу ў твар мужчыне». Па гэтым абвінавачванні яму пагражае да 10 гадоў пазбаўлення волі.

Грамадскасць і праваабаронцы лічаць, што пераслед Паліенкі носіць палітычны характар.



## Кор'ен Ёнкер

**Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ адкрыла місію па назіранні за выбарамі ў Палату прадстаўнікоў, кіраваць якой будзе Карнэлія Вільямін Анке Ёнкер з Нідэрландаў.**

Місія складаецца з асноўнай групы ў 11 экспертаў, якія базуюцца ў Мінску, і 30 доўгатэрміновых назіральнікаў, якія будуць працаваць па ўсёй краіне з 23 кастрычніка. Таксама чакаецца, што АБСЕ накіруе каля 400 кароткатэрміновых назіральнікаў, якія прыбудуць у Беларусь за некалькі дзён да выбараў.

Місія ацэніць, ці праходзяць выбары ў адпаведнасці з прынцыпамі АБСЕ і іншымі міжнароднымі стандартамі дэмакратычных выбараў, а таксама з нацыянальным заканадаўствам. Назіральнікі будуць сачыць за рэгістрацыяй выбаршчыкаў, рэгістрацыяй кандыдатаў у дэпутаты, агітацыйнай кампаніяй, працай ЦВК, выкананнем заканадаўства, звязанага з выбарамі, і вырашэннем звязаных з імі спрэчак. Таксама будзе кантралявацца асвятленне выбарчай кампаніі ў СМІ.

Да Беларусі Кор'ен Ёнкер кіравала еўрапейскімі назіральнікамі на пазачарговых выбарах прэзідэнта Казахстана ў красавіку 2015 года.



## Ванэса Марская-Умене

**Жыхарка Беларусі — адна з дзесяці дзяўчын, якая рыхтавалася прадставіць нашу краіну на міжнародным конкурсе прыгажосці Top of the World Plus Size 2019. Аднак цяпер прадставіць Нігерыю.**

«Ванэса — яркая і ўзрушаючая, яна адразу спадабалася ўсім чальцам журы. Але мы падумалі, што будзе дзіўна адпраўляць яе ад Беларусі, — кажа нацыянальная дырэктарка конкурсу ў Беларусі Яўгенія Цюленева. — Сам конкурс для публікі — ужо выклік. А калі мы яшчэ адправім мулатку ад Беларусі, разумею, што нарвёмся на шмат негатыўных водгукаў».

Тата Ванэсы — з Нігерыі, маці — беларуска. Амаль усё жыццё сям'я пражыла ў Беларусі. Конкурс пройдзе ва Украіне ў лістападзе, падтрымаць Ванэсу плануе прыйсці пасол Нігерыі ў гэтай краіне. Дарэчы, Нігерыя на гэтым конкурсе будзе прадстаўленая ўпершыню.

Вось і кажы пасля гэтага пра «талерантных» беларусаў, якія выкраслілі дзяўчыну з прычыны таго, што «яны падумалі». А па факце — з-за колеру скуры.

# «Кожную секунду спадзяюся, што ён жывы»

Вераніка УЛАСЕВІЧ

**«Што ні раблю, ён заўсёды са мной. Па вечарах чую, як цягнік набліжаецца, на якім ён любіў прыязджаць, і гляджу на брамку... Пакуль не ўбачу цела сына, не паверу, што ён мёртвы», — кажа Тамара Мікалаеўна, маці асуджанага да смяротнага пакарання Паўла Селюна.**



Мы пачынаем цыкл матэрыялаў пра жанчын, чые родныя былі прысуджаныя да расстрэлу. Перад смерцю мужчыны насілі турэмныя робы з паметкай «ВМП», што расшыфроўваецца як «выключная мера пакарання». Праз некаторы час гэтае адзенне аказвалася ў руках маці, жонак, дачок і сясцёр, якія і сёння захоўваюць у сэрцах любоў да блізкіх і спадзяюцца на цуд. Адны ад такога ўпадаюць у істэрыку, другія страчваюць прытомнасць, а трэція бягуць распальваць вогнішча. Родных не ставяць у вядомасць, калі прысуд прывядуць у выкананне, дзе знойдзе спачын смяротнік і ці пахаваюць яго наогул. Пра расстрэл родныя даведваюцца постфактум па паведамленні: «Адбыў па прысудзе».

За ўсю гісторыю незалежнай Беларусі каля 400 мужчын былі асуджаныя да вышэйшай меры пакарання. А значыць, як мінімум столькі ж жанчын па гэты дзень жывуць адзін на адзін са сваім горам. Мы даведаліся, хто яны, — мамы, жонкі, дочкі і сёстры расстраляных, як яны жывуць пасля ракавога прысуду і што часцей за ўсё ўспамінаюць пра блізкіх.

Гэта было лета 2012 года. Калі да хаты пад'ехала міліцэйская машына, Тамара Сялюн звыкла наводзіла парадак у агародзе. Мясцовы следчы хацеў даведацца, ці прыедзе адзін з яе сыноў-двайнятак дадому на выходныя: маўляў, хлопец праходзіць сведкам па важнай справе. Ужо на наступны дзень Тамары Мікалаеўне патэлефанаваў адвакат з Гродна са словамі: «Нікому не жадаю таго, што адбылося з вашым сынам. Не ведаю, ці вазьмуся я за гэтае пытанне».

— У свой час мае бацькі жылі нябедна, у іх адных на ўвесь гарадок быў «Масквіч». Праўда, тата рана памёр, — з такімі словамі Тамара Мікалаеўна адчыняе браму простай вясковай хаты. Па дарозе з прыпынку яна амаль кожнаму мінаку кідае шчырае «Прывітанне», аднак не заўсёды атрымлівае адказ... — Кавалераў у маладосці ў мяне была процьма. Тады выкладала ў тэхнікуме сапрамат і дэталі машын, а ў вольны час падарожнічала. Замуж выйшла позна — у трыццаць пяць. Потым нарадзіла двайнятак — Андрушу і Паўлушу. Памятаю, як іх бацька ўзрадаваўся, вартаваў мяне каля радзільні, падарункі прыносіў. Пражылі з ім восем гадоў.

Браты-двайняткі жылі дружна і ва ўсім стараліся дапамагаць адзін аднаму. У Андрэя больш тэхнічны склад розуму (ён хутка схопліваў фізіку і матэматыку), а Павел рос гуманітарыем. Вось так і атрымалася, што першы паступіў у палітэх, а другі — на гістфак.

— Андрэйка заўсёды быў больш баявы, з характарам. Калі праводзіла на маршрутку, ён заўсёды абдыме, пацалуе. А Паўлуша саромеўся, казаў: «Матуля, трэба было дома», — Тамара Мікалаеўна ўжо не стрымлівае слёзы. Яна да гэтага часу не можа глядзець на аўтобусныя прыпынкі — яны нагадваюць пра праведзеныя з сынам хвіліны. — Хлопчыкі раслі ў мяне вельмі хатнімі. Я ім ні ў чым не адмаўляла, на дыскатэкі пускала, але хлопцы самі не ішлі. Ім больш падабалася пачытаць, на футбол схадзіць, прагуляцца па лесе або на роварах пакатацца. Справамі сардэчнымі са мной ніколі не дзяліліся.

На першых курсах універсітэта сыны прыязджалі дадому амаль кожны тыдзень, а на старэйшых курсах сталі бываць у мамы радзей. Але заўсёды ведалі, што ёй трэба дапамагчы па гаспадарцы.

Цяпер Тамары Мікалаеўне кожная рэч і кожны кут у доме нагадваюць пра загінулага Паўла. Нават канапа, на якой мы запісваем інтэрв'ю, асацыюецца з цёплымі і адначасова балючымі момантамі:

— Паўлуша прыедзе з горада ўвесь такі стомлены, ляжа на канапу і просіць «Мама, можна я трошкі адпачну, а потым табе дапамагу». Я памятаю, як ён заснуў, а я яго коўдрай прыкрыла, пацалавала, абняла. Яны абодва стамляліся, стараліся падпрацоўваць у вольны ад вучобы час.

Званок адваката ў той злашчасны дзень стаў адпраўной кропкай у бясконцых судовых разглядах, турэмных спатканнях, перадачках і нервовых зрывах. Як высветлілася, 23-гадоваму Паўлу прад'явілі абвінавачванне па некалькіх пунктах артыкулаў КК РБ: арт. 139 «Забойства», арт. 205 «Крадзеж», арт. 347 «Здзек з трупу або магілы» і арт. 378 «Крадзеж асабістых дакументаў». У 2013 годзе яго прызналі вінаватым у жорсткім забойстве жонкі і сябра на глебе рэўнасці. Жонцы ён нанёс шматлікія колата-рэзаныя раны ў вобласці шыі, спіны і жывата. А цела палюбоўніка расчляніў і выкінуў у смеццевы бак, забраўшы з сабой галаву.

— Да таго, як пачалася ўся гэтая гісторыя, я наогул нічога не ведала пра жонку Паўла. Пазней стала вядома, што яшчэ і года не было, як яны распісаліся. Я заўсёды казала: скончыце інстытуты, тады і ажэніцеся. Напэўна, таму і трымаў у сакрэце. Андруша, мабыць, усё ведаў, але не выдаваў брата, — будуе здагадкі маці асуджанага на смяротнае пакаранне.

Дасведчанага адваката ў такім далікатным выпадку жанчыне дапамаглі знайсці супрацоўнікі праваабарончага цэнтра «Вясна». Грошы на абарону і перадачы сыну прыходзілася пазычаць па знаёмых. А некаторыя з іх самі прыходзілі дадому да Тамары і клалі грошы на стол са словамі: «Табе яшчэ спатрэбяцца».

**Я не веру ў тое, у чым абвінавачваюць майго сына. Знайшлі больш дваццаці ўскосных сведак... Ні адзін чалавек не бачыў, што здарылася на самай справе**

— У нас гарадок маленькі, усе плёткі хутка разлятаеліся па мясцовасці. На пачатку я старалася нікуды не выходзіць за браму дома. У мяне пальцам тыкалі, некаторыя казалі, што я гэтага заслужыла, — узгадвае непрыемныя моманты жанчына, перабіраючы ў руках лісты ад сына. — А з часам адаптавалася: па-ранейшаму з усімі вітаюся. Некаторыя на самай справе не ведаюць, што адбылося, пытаюцца пра сыноў. У такіх выпадках адказваю: усё добра, жывуць за мяжой — і хуценька, каб не расплакацца, уцякаю прэч.

Наогул, спачатку пра ўсё даведаўся Андрэй. Мабыць, Паша не хацеў хваляваць маму і даў праваахоўнікам нумар брата. Калі пра падрабязнасці справы даведалася Тамара Мікалаеўна, яна ўсімі сіламі спрабавала стрымліваць эмоцыі і думаць разумна, выкарыстоўвала ўсе магчымасці для выратавання сына.

Яна адправіла прашэнне аб памілаванні Лукашэнку, дзе акцэнт рабіла на бацькоўскіх пачуццях, аднак адказу так і не атрымала. Зварот да Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта таксама не прывёў да чагосьці канкрэтнага. Адказ быў такі: «Беларуская праваслаўная царква прыкладае намаганні, каб смяротныя прысуды ў нашай краіне не выконваліся». Вялікую надзею матчына сэрца ўскладала на скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН, якую прынялі да разгляду. Па правілах, выкананне прысуду павінны былі адкласці да заканчэння разгляду дакумента ў Камітэце. Але ў красавіку 2014 года родныя Паўла даведваліся, што хлопец «адбыў па прысудзе».

— Калі хлопцы былі студэнтамі, я ім з сабой у дарогу дранікі рабіла, яны вельмі любілі. Калі да Паўлушы ў турму прыязджала, ён часта ўспамінаў пра дранікі. Але там, на жаль, такія гасцінцы не дазваляюцца...

Спатканні з сынам маці ўспамінаць цяжка, асабліва на «Валадарцы». Перад паўгадзіннай сустрэчай яе доўга кансультавалі, аб чым можна казаць, а пра што нельга. Потым прыводзілі хлопца пад канвоем з чалавек дзесяці.

— Каб убачыць дзіця на пару хвілін даўжэй, баялася сказаць што-небудзь лішняе. Размаўлялі на агульныя тэмы. Праз шкло глядзець адзін на аднаго было немагчыма, нават за ручку не магла яго трымаць. Я заўсёды старалася чытаць па вачах. Паша заставаўся стрыманым, на пачуцці не пераходзіў. Але было прыкметна, што змарнеў, сінякі пад вачамі выдавалі. А як прыгадваю гэтыя жудасныя кайданкі і крывавыя падцёкі на руках, так і ўздрыгваю...

Сын у лістах толькі супакойваў: «У мяне ўсё выдатна, не турбуйся, беражы сябе».

— На апошнім спатканні Паўлуша неяк сказаў: «Мама, ты на волю цяпер пойдзеш». Я тады не магла падумаць, што бачу сына ў апошні раз, — тут жанчыну рэзка накрывае хваля лютай істэрыкі і нянавісці да ўсяго таго, што адбылося. — Я была ў знаёмай, калі патэлефанаваў адвакат і з асцярогай сказала: «Вы толькі не палохайцеся, я яшчэ ўсё даведаюся. Мне сказалі, што Павел адбыў па прысудзе». Я адразу зразумела, што з сынам нешта не так.

Але мацярынскае сэрца да канца спадзявалася на цуд. Тамара Мікалаеўна была ўпэўненая, што нічога дрэннага не здарыцца, пакуль ААН разглядае скаргу, дый час для цёмных спраў не зусім зручны — напярэдадні Вялікдзень. Аб тым, што прысуд прыведзены ў выкананне, мама Паўла даведалася з пісьмовага паведамлення, якое дайшло ёй праз два тыдні пасля афіцыйных запытаў у суд.

— Прайшло каля месяца пасля жудаснай навіны, і мне прыйшла пасылка без зваротнага адрасу. Я падумала, можа, якія-небудзь багатыя добрыя людзі даведаліся пра маё гора і выслалі рэчы ў дапамогу. Сусед падвёз дадому пасылку, занесла яе ў гараж, адкрыла, а там — гэтая шапачка і адзенне, у якім увесь апошні час хадзіў мой сын, — у вачах Тамары Мікалаеўны чытаецца жах і адчай. — Я, доўга не думаючы, развяла вогнішча і спаліла ўсё гэта.

Колькі жанчына ні пісала ў афіцыйныя структуры з просьбай патрапіць на магілу сына, усё марна. На ўсё адзін адказ — такі закон. Няведанне накладвае свой адбітак на стан маці забітага, стварае ілюзію, быццам ён жывы:

— Я кожную секунду спадзяюся, што ён жывы. Што ні раблю, ён заўсёды са мной. Па вечарах чую, як цягнік набліжаецца, на якім ён любіў прыязджаць, і гляджу на брамку. Наогул, шмат гісторый вычытала ў інтэрнэце, што ў падобных сітуацыях разумных людзей не расстрэльваюць, а вярбуюць. Некаторых пускаюць на органы багатым. Пакуль не ўбачу цела сына, не паверу, што ён мёртвы.

Цяпер Тамара Мікалаеўна жыве з Андрэем. Здароўе забітай горам жанчыны з кожным днём падводзіць усё больш. Але яна спадзяецца, што дажыве да таго часу, калі адкрыюцца архівы — і яна даведаецца, дзе пахаваны сын.

Падтрымліваюць жанчыну толькі адзінкавыя знаёмыя, якія да канца засталіся вернымі сям'і Сялюн. У іх ёсць сваё меркаванне наконт сітуацыі, якая склалася, а гэта сёння вялікая рэдкасць. Большасць мясцовых да гэтага часу тыкаюць пальцам і шэпчуцца.

— Цяпер, можа, лягчэй стала? — з надзеяй пытаюся ў жанчыны.

— Не, такое гора час не вылечыць. Я не веру ў тое, у чым абвінавачваюць майго сына. Знайшлі больш дваццаці ўскосных сведак: і выкладчыкаў, і аднакурснікаў, і сяброў — ні адзін дрэннага слова не сказаў пра Паўлушу. Ні адзін чалавек не бачыў, што здарылася на самай справе. А калі чалавека прыцісунуць, ён усё што хочаш прызнае.

Маці дзяўчыны, у забойстве якой абвінавацілі Паўла, Тамара Мікалаеўна бачыла толькі раз у жыцці — у Вярхоўным Судзе пры абвяшчэнні прысуду. Пасля пасяджэння Тамара Мікалаеўна падышла да яе і ўстала перад ёй на калені, слёзна молячы пра прабачэнне. Слухаць яе ніхто не захацеў...

**Фота Дзяніса Малышыца**

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by



6–7 ШЫРСПАЖЫЎ: АД ZARA ДА СЭКАНД-ХЭНДУ

8 ІТАЛЬЯНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОДЫ
NELVA, BURVIN, LAKBI, BAZALINI... МНОГІЯ НАВАТ НЕ ВЕДАЦЬ, ШТО ГЭТЫЯ БРЭНДЫ — БЕЛАРУСКІЯ

# Цяжар «Беллегпраму»

Павел КІРЫЛАЎ




**Лёгкая прамысловасць — лідар па стратных прадпрыемствах у Беларусі, хаця апошнімі гадамі дзяржава ўклала сюды каля 1 мільярда долараў. Падтрымка на будучыя гады нікуды не падзенецца, але рэгулярныя просьбы-скаргі канцэрна «Беллегпрам» ускладніць умовы працы для канкурэнтаў урад успрымае дастаткова прахалодна. У адказ гучыць настойлівая рэкамендацыя ўключаць больш плённыя бізнес-стратэгіі.**

Віцэ-прэм’ер Ігар Ляшэнка, які курыруе ва ўрадзе працу «Беллегпраму», звяртаў увагу на «эфектыўнасць сістэмы кіравання» — у прыватнасці, на «неабходнасць аптымізацыі матэрыяльных і працоўных выдаткаў». У якасці кароткатэрміновай задачы запатрабавана да канца года разгрузіць вялізныя складскія запасы, якія замарожваюць абаротныя сродкі прадпрыемстваў. Гэта галаўны боль ужо новага старшыні канцэрна — Таццяны Лугіной, якая заступіла на гэтую пасаду замест звольненага ў сакавіку Мікалая Яфімчыка. Той ачоліў канцэрн у 2014 годзе, прыйшоўшы з пасады гендырэктара салігорскай «Купалінкі». У адстаўку Яфімчык пайшоў у сувязі са сканчэннем кантракту. А вось яго папярэднік Міхаіл Сучкоў стаў фігурантам крымінальнай справы і быў асуджаны за карупцыю да 10 гадоў зняволення. Яго абвінавацілі ў намеры атрымаць мільён еўра хабару за лабіяванне інтарэсаў адной з кампаніяй падчас тэндару. Сам экс-дырэктар «Беллегпраму» сваю віну адпрэчваў.

## Заробак гарошкам і рыбай

Лугіна да пераезду ў Мінск кіравала пінскім прамыслова-гандлёвым аб’яднаннем «Палессе», якое спецыялізуецца на вырабе верхняй трыкатажнай вопраткі і воўны. Цікава, што на гэтай фабрыцы працавалі і яе бацькі, а сама яна зрабіла там кар’еру ад канструктара адзення і да гендырэктара. Калі яна ачоліла «Палессе», прадпрыемству пагражала банкруцтва. Лугіной удалося пазбегнуць гэтай працэдуры. Плошчы, што пуставалі, здалі ў арэнду, склады разгрузілі, прадаючы тавар са зніжкамі, заняліся шыццём школьнай формы — у тым ліку на Расію, гандлёвую марку пачалі прасоўваць праз інтэрнэт. Былі і вымушаныя непапулярныя дзеянні, каб прадпрыемства не патанула. Здарыўся нават скандал, калі працаўнікі паскардзіліся ў сталіцу, што пэўны час заробак часткова выдаваўся ручнікамі і харчамі (рыбай, цукрам, зялёным гарошкам). Праз бартэр вырашалася праблема з запазычанасцю з боку прадпрыемстваў спажыўкаaперацыі. Але ці ўдасца такім жа чынам ажывіць усю галіну?

Новае кіраўніцтва канцэрна і прадпрыемстваў, якія ў яго ўваходзяць, наважаныя заняцца грунтоўнай распрацоўкай бізнес-планаў з улікам разнастайнай канкурэнцыі, развіццём прасунутых маркетынгавых інструментаў, дызайнерскім удасканаленнем і іміджавым пазіцыянаваннем «Купляйце беларускае» з акцэнтам на маладых пакупнікоў. Бо сапраўды: часцяком бывае, што якасць рэчаў добрая, але іх продажная прэзентацыя і фасоністасць кульгаюць. Уласна, задачы «Беллегпраму» і ёсць шматфункцыянальныя паводле яго поўнай назвы — Беларускі дзяржаўны канцэрн па вытворчасці і рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасці. Як і асноўнай мэтай абвешчана «максімальнае задавальненне запытаў спажыўцоў на якасныя і модныя тавары ў шырокім асартыменце і па даступных коштах, павышэнне канкурэнтаздольнасці галіны і яе іміджу».

Адзін з бізнес-захадаў, які ўжо здзейсніў «Беллегпрам» у канкурэнтнай барацьбе, тычыцца палёгкаў для індывідуальных прадпрымальнікаў, што гандлююць адзеннем. Прадпрыемствам, якія ўваходзяць у канцэрн, рэкамендавана павялічыць час адтэрміновак плацяжоў для ІП — каб тыя маглі разлічвацца за ўзяты тавар па яго рэалізацыі. Нават цягам паўгода. Але гэта менавіта рэкамендацыя, а не рашэнне па канцэрне. Бо пытанне складанае: прадпрыемствам трэба штомесяц разлічвацца па крэдытах. Таксама ІП просяць, каб можна было браць на фабрыках больш дробныя партыі тавараў.

Вядомая «ажыўляльная» мера — продаж акцыяў прадпрыемстваў інвестарам. Напрыклад, улетку выстаўленыя на продаж амаль 85% акцыяў згаданай вышэй салігорскай «Купалінкі». Пры гэтым ад інвестара-пакупніка хочуць унёску ў статутны фонд 10 мільёнаў рублёў, стварэння не меней 40 працоўных месцаў, захавання гандлёвай маркі, росту аб’ёмаў вытворчасці ў грашовым вымярэнні на 20%.

Іншымі ідэямі па развіцці галіны кіраўніца «Беллегпраму» Таццяна Лугіна нядаўна падзялілася падчас інтэрв’ю на АНТ і СТБ. У прыватнасці, прапанавана, каб кожнае прадпрыемства канцэрна або само развівала інтэрнэт-краму, або стварыць агульнаканцэрнавую пляцоўку: «Сёння продаж змяніўся, змяніліся і чаканні пакупніка. Людзі пераходзяць у розныя фарматы: нехта хоча праз інтэрнэт-гандаль у анлайн-рэжыме хутка і не выходзячы з дома купіць, а хтосьці жадае, каб яму распавялі гісторыю і паказалі, як у “Краме на канапе”. Гэта тып продажаў, які ўздзейнічае на псіхалогію жанчын. Такі фармат сёння вельмі раскручаны. У Расіі кожны год адчыняюцца 3–5 каналаў-тэлекрамаў».

Што тычыцца вытворчасці, то Лугіна разважае пра стаўку на вельмі запатрабаваныя сёння «тэхнічныя, тэхналагічныя тканіны, тканіны медыцынскага прызначэння і палотны з адмысловымі ўласцівасцямі». Як бачым, шукаюцца перспектыўныя нішы, бо «рынак вопраткі, якая выкарыстоўваецца штодня, прасядае, аб’ёмы тавараздвароту падаюць, а менавіта рынак тэхнічных тканінаў будзе расці». Плануецца абмеркаваць будучыню такога брэнду, як беларускі трыкатаж: «Ці далей яго падтрымліваць і развіваць, ці змірымся і будзем выпускаць пад любымі сусветнымі маркамі на сваім абсталяванні за кошт сваіх працоўных рэсурсаў». Ёсць ідэі для прасоўвання прадукцыі — стварыць у Мінску агульны шоу-рум, а таксама «мультыбрэндавы вобраз, лагатып, каб сысці ад аскоміннага для насельніцтва “Беллегпраму”».

## Ціснем кітайцаў

Між тым, сёлетнія прамежкавыя эканамічныя паказчыкі дзейнасці легпрамнай галіны не цешаць: працягваецца зніжэнне долі продажу тавараў беларускай вытворчасці на ўнутраным рынку. Пры гэтым імпарт такіх тавараў у першым паўгоддзі вырас амаль на 8%. Аб’ёмы паставак прадукцыі прадпрыемстваў у складзе «Беллегпраму», адпаведна, скараціліся. Асабліва трыкатажнай бялізны, гарсэтных вырабаў і верхняй вопраткі. Затое вырас экспарт у краіны Еўрасаюза — на 10%. Гэта вынік палітыкі дыверсіфікацыі паставак, паколькі ў Расіі попыт знізіўся. Увогуле, больш за палову прадукцыі прадпрыемстваў у сістэме «Беллегпраму» прадаецца за мяжу. Калі казаць пра расійскі рынак, то там беларускія вытворцы ўмацавалі пазіцыі па жаночай ніжняй бялізне. Лічбы па заваяваных долях гэтага рынку за апошняе пяцігоддзе ўражваюць. У 2014 годзе на Кітай прыпадала 70% імпартных паставак у Расію, а на Беларусь — 2%. Летась было ўжо 44% і 23% адпаведна. Сёлета тэндэнцыя працягнулася. Сакрэт — у зніжэнні коштаў пры захаванні якасці прадукцыі той самай «Мілавіцы». Мэта — патаннець яшчэ болей. Пры гэтым дэкларуецца, што не за кошт заработных платаў працаўніц.

Дарэчы, «Новы Час» вывучыў свежыя вакансіі на некаторых прадпрыемствах лёгкай прамысловасці. Прапановаў хапае: што праўда, пераважна не вельмі прывабных. У вядомы жодзінскі «Світанак» швачку запрашаюць на 500 рублёў ды прадстаўляюць пры патрэбе інтэрнат. Укладчыку-ўпакоўшчыку будуць плаціць 400 рублёў, каларысту з мастацкай адукацыяй — 600. Салігорская «Купалінка» гатовая плаціць прадаўцам сваіх фірмовых крамаў у Мінску 400 рублёў.

Нездарма прафсаюз працаўнікоў лёгкай прамысловасці б’е трывогу. За апошнія пяць гадоў колькасць працоўных у галіне скарацілася на 15%. Тут кажуць пра непрэстыжнасць галіновых прафесіяў, неахвоту моладзі атрымліваць працоўныя спецыяльнасці і, натуральна, нізкі ўзровень заробкаў. Мы зазірнулі ў кашалькі легпрамаўцаў з дапамогай статыстыкі. Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, сярэдні заробак сёлета за перыяд са студзеня па жнівень тых, хто заняты ў вытворчасці тэкстыльных вырабаў, вопраткі і вырабаў са скуры і футра, склаў 760 рублёў. Гэта значыць, далекавата да запаветнай уладнай планкі-абяцанкі ў 1000 рублёў. І працаўнікам галіны павінна быць трывожна ад задачы «аптымізаваць матэрыяльныя і працоўныя выдаткі».

# Шырспажыў: ад Zara да

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**Выбар адзення па асартыменце і коштах такі разнастайны, што кожнаму вельмі лёгка кіравацца выслоўем славутага мадэльера Крысціяна Дыёра: «Уменне апранацца трымаецца на трох кітах — простасці, добрым гусце і звычцы даглядаць за сабою — і гэта зусім не дорага!» Хаця, канешне, хапае тых, хто з розных прычынаў робіць з вопраткі культ. Узяць хаця б нядаўні ажыятаж падчас адкрыцця першай крамы H&M у Мінску. Ува што і за колькі апранаюцца беларусы ў часіны не надта вялікага дабрабыту?**




**Беларусы не надта разбэшчаныя сусветна вядомымі брэндамі і хочуць быць датычнымі да такой моды. Гэта натуральна ў краіне, дзе сярэдні заробак не сягае 500 долараў. То-бок, да тусовачнага хайпу ад пэўнай фэшн-падзеі далучаецца элементарнае жаданне зэканоміць**

Штогод у Беларусь прыходзіць нейкі мас-маркетны (різлічаны на масавага спажыўца) брэнд адзення. І гэта становіцца падзеяй як для тых, хто знаёмы з гэтымі папулярнымі маркамі праз шопінг за мяжой, так і для тых, хто проста быў начуты пра іх. А вядомасць брэндаў сусветная, бо для згаданага H&M Беларусь стала 73-й краінай прысутнасці, а для прыйшоўшай у 2017 годзе фірмы Zara — аж 94-й. Калі для большасці пакупнікоў Versace — гэта нешта недасяжнае з тэлевізійных fashion-паказаў, то мас-маркетныя брэнды — вось яны, з недарагімі цэннікамі.

### Трэнды брэндаў

Многія з іх узняліся на тым, што аператыўна па-дызайнерску рэагуюць на модныя тэндэнцыі, не цураючыся рабіць мадэлі-двайнікі прэміумных модных дамоў, часта абнаўляючь калекцыі. Усё гэта называецца стратэгіяй «імгненнай моды». Калі ад дызайнерскай распрацоўкі мадэлі да яе размяшчэння на вешалцы ў краме праміне ўсяго толькі нейкія паўмесяца. У выніку вопратка прадаецца ў сапраўды шырокім асартыменце, і пры гэтым, дзякуючы шыццю ў краінах з таннай працоўнай сілай, па нізкіх коштах. Як кажуць, «дэмакратычных»: таму рэчы хадавых брэндаў — у гардэробе як студэнтаў, так і зорак шоу-бізнесу. Пра папулярнасць і даходы, напрыклад, Zara можа сведчыць тое, што яе заснавальнік іспанец Амансіа Артэга ў 2015 годзе на нейкі час нават узначаліў спіс самых багатых людзей планеты паводле версіі часопіса «Forbes».

Чаму яшчэ адкрыццё першай крамы H&M у Мінску выклікала сапраўдны пакупніцкі ажыятаж і выглядала так, як у пачатку 1990-х у савецкіх рэспубліках адчыняліся «Макдональдсы»? Няўжо беларусам няма чаго насіць, як у згаданыя часы скону СССР, калі палова моладзевай кампаніі магла быць апранутая ў аднолькавыя турэцкія швэдры і ласіны.

H&M па завядзёнцы правёў доўгую (цягам некалькіх месяцаў) і інтэнсіўную рэкламна-маркетынгавую кампанію. У выніку некаторыя беларусы ўзначалілі чаргу яшчэ напярэдадні адкрыцця. Заахвочвалі да гэтага сертыфікаты на некалькі соцень рублёў і зніжкі першым пакупнікам. На адкрыцці хапала блогераў і селебрыці, якія потым натхнёна і не за так справаздачыліся ў сацыяльных сетках. Такім чынам розгалас працягнулі яшчэ на некалькі дзён.

Піяршчыкі адзначаюць, што беларусы не надта разбэшчаныя сусветна вядомымі брэндамі і хочуць быць датычнымі да та-

# Шыем сваю справу

Павел КІРЫЛАЎ

**Паводле Белстату, 7% расходаў беларусаў прыпадае на адзенне і абутак. Ці хацелі б вы апранаць суайчыннікаў, прадаючы, шыючы ці рамантуючы адзенне? Мы раскажам пра самыя простыя і з невялікім стартавым капіталам спосабы зарабіць на гэтым. А таксама пра нюансы, якія могуць быць карысныя, калі вы — пакупнік-спажывец.**

Канцэрн «Беллегпрам» невыпадкова ўз'еўся на крамы сэканд-хэнд як на канкурэнтаў. Калі не праз якасць рэчаў, якія там прадаюцца (хаця гэта далёка не «анучы»), дык з-за іх колькасці. Яны растуць як грыбы. Напрыклад, у наваколлі майго дома ў Мінску за апошнія некалькі гадоў адчынілася каля паўдзясятка такіх крамаў. Асноўных прычынаў «сэканд-маніі» дзве. Першая — нізкія даходы насельніцтва. Сэканд-хэнд і яго распаўсюджанасць — яскравы індыкатар узроўню жыцця, хаця, зноў жа, закупляюцца ў такіх крамах не толькі бедныя людзі. Другая прычына — гэты бізнес дастаткова просты для ўваходу. Калі агулам, то схема няхітрая: закупляеш былыя ва ўжытку рэчы гуртам і прадаеш у раздроб — ці дробным гуртам. Гэтая простасць шмат каго спакушае паспрабаваць.

### Чым пахне сэканд-хэнд?

Але з чаго пачынаць і ў якіх маштабах варта адчыняць краму патрыманай вопраткі, абутку і сумежных аксесуараў? Найперш займіцеся стварэннем ІП (са спрошчанай сістэмай падаткаабкладання ў 5% ад выручкі) і бэнч-маркетынгам. Пад гэтым салідным бізнес-словам разумеецца працэс пошуку, вывучэння і выкарыстання ўдалай дзейнасці канкурэнтных фірмаў дзеля дасканалай працы вашай. То-бок, пахадзіце па крамах сэканд-хэнду: вывучыце тавар, кошты, наведнікаў. І... адчуйце спецыфічны пах рэчаў.




Пах — наступства апрацоўкі рэчаў хімікатамі па патрабаванні санітарна-эпідэміялагічнай службы дзеля стандартаў бяспекі. Праводзіцца яна перад паступленнем рэчаў на гуртавыя склады. Уладальнікі крамаў закупляюць патрыманую і стокавую вопратку ўжо адмыслова апрацаваную і з адпаведнай дакументацыяй. З гэтага вынікае парада: арэндаванае памяшканне «сэкандавай» крамы павінна добра праветрывацца. Асвяжальнікі паветра тут мала дапамогуць.

І лайфхак, як вынішчыць пах з такой вопраткі. У час замочвання і прання выкарыстоўваюць соду, палошчуць у вадзе, у якую дадаюць гарэлку або, лепш за ўсё, нашатырны спірт. Ёсць таксама спецыяльныя дэзадаранты для пазбаўлення ад непрыемных пахаў у тканінах.

Што да размяшчэння гандлёвай кропкі, то трэба шукаць, відома, прахадное месца навідавоку. Але, у адрозненне ад, напрыклад, кавярняў, у адзеным выпадку неістотна, дзе вы адчыніце краму, — у цэнтры горада ці ў спальным раёне. У «спальніку» будзе абсалютна слушна — каля шляхоў з вялікай колькасцю мінакоў і шматпавярховікаў паблізу, ды каб яшчэ каля гіпермаркета. Натуральна, і арэнда будзе танней. Дарэчы, пачынаць тыя, хто працуе ў гэтым бізнесе, раяць з крамнай плошчы каля 40–50 квадратных метраў. А павялічваць яе пасля таго, як вы дакладна вызначыцеся, які тавар у вас добра прадаецца.

А па тавар вам — на гуртавыя склады. Рэчы там прадаюцца ў вялізных цюках па некалькі дзясяткаў кілаграмаў. Выбіраць з іх нешта нельга — браць трэба цалкам, а потым ужо сартаваць (ці не сартаваць) перад продажам. А вось змесціва мяхоў падзяляецца на катэгорыі: тут ужо маеце выбар. Гэта можа быць нейкая адна пазіцыя (напрыклад, джынсы ці дзіцячыя чаравікі) ці мікс рэчаў рознай катэгорыі суадносінаў (кошт-якасць). Можа быць вопратка з невялікім адсоткам зношанасці або прыдатная толькі на анучы, фірмовая былая ва ўжытку і новая стокавая. Сток — гэта не распрададзенае ў крамах адзенне, калі застаюцца асобныя рэчы, якія нельга прадаваць, бо няма ўсёй лінейкі памераў мадэлі. Паношанае адзенне — тое, што аддаецца ці прадаецца за невялікія грошы як ужо непатрэбнае жыхарамі розных

# сэканд-хэнду

кой моды, хай яна і не высокая, а з мас-маркетнага сегменту. Гэта натуральна ў краіне, дзе сярэдні заробак не сягае 500 долараў. То-бок, да тусовачнага хайпу ад пэўнай фэшн-падзеі далучаецца элементарнае жаданне зэканоміць. Зрэшты, кошты на адзенне папулярных замежных брэндаў у мінскіх крамах агулам вышэйшыя за віленскія і варшаўскія, але больш прыемныя за маскоўскія.

З аднаго боку, гэта азначае, што выязны шопінг многіх беларусаў не змізарнее, а па-другое, што айчынная лёгкай прамысловасці з'яўленне крамаў ад розных замежных брэндаў дадае канкурэнцыі не надта крытычна. Яна, ясна, і так сур'ёзная. І брэнды б'юцца самымі рознымі метадамі і трэндамі. Апошні піск у модзе — пазіцыянаванне вырабу адзення як экалагічна бяспечнага. Лідарскія мас-маркетныя брэнды навыперадкі заяўляюць, што неўзабае цалкам пазбавяцца выкарыстання ў вытворчасці атрутных хімікатаў. Прыемны момант у сусветным эка-трэндзе: напрыклад, Аршанскі льнокамбінат пастаўляе сваю тканіну ў тым ліку ў цэхі Zara ды H&M. А ў планах гэтага прадпрыемства, між іншым, значыцца выпуск памперсаў, пракладак, вільготных сурвэтак ды іншых санітарна-гігіенічных вырабаў.

**Вайна з «цюбецейкамі»**

Што да канкурэнцыі на ўнутраным рынку, то кіраўніцтва канцэрну «Беллегпрам» публічна наракае перадусім на распаўсюд апошнімі гадамі па ўсёй краіне «азіяцкіх крамаў». Яшчэ іх называюць «крамамі цюбецеек» — яны належаць, у асноўным, узбекам. Там блузы, сукенкі, нагавіцы, цішоткі ды іншая вопратка прадаюцца па коштах, якія могуць быць у разы ніжэйшыя, чым нават у гандляроў на рынках. Моцна дэмпінгуючы крамы выходзяць з Азіі нібыта таму, што іх тавар не мае патрэбных суправаджальных дакументаў, а продаж вядзецца з «шэрай» бухгалтэрыяй. То-бок, праз касавыя апараты пакупкі не праводзяцца, падаткі не сплачваюцца і абарона правоў пакупнікоў кульгае.

Пакупнікі ж пра інтарэсы нацыянальных вытворцаў не дбаюць і спажывецкай ксенафобіяй не пераймаюцца, а спакойна закупляюцца там, дзе танней. У Мінску працуе прыкладна дзясятая частка такіх супертанных крамаў, большасць жа сканцэнтраваная ў рэгіёнах, дзе вялікі попыт, улічваючы даходы, забяспечаны.

Ва ўнісон «Беллегпраму» і прадпрыемствам, якія ўваходзяць у сістэму гэтага канцэрна, скардзяцца ўладам на «азіяцкія» крамы і гандляры на рынках. У траўні прадпрымальніцкае аб'яднанне «Перспектыва» атрымала адказ па гэтай праблеме ад Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. Там паведамілі, што час ад часу ладзяць маніторынг працы «азіяцкіх» гандлёвых аб'ектаў: практычна ва ўсіх праверaных крамах знаходзяць парушэнні, у тым ліку паўторныя, адпраўляюць у суды адпаведныя пратаколы. Больш за 3 тысячы найменняў тавараў у такіх крамах сёлета праверыў і Дзяржстандарт. Парушэнні былі выяўленыя ва ўсіх правераных суб'ектах гандлю практычна па ўсёй прадукцыі.

**Пакуль у Беларусі ў народа будуць такія даходы, як цяпер, сэканд-хэндам нічога не пагражае. Такія крамы, афлайнавыя ці анлайнавыя, дапамагаюць людзям элементарна выжываць: у «сэкандзе» можна купіць прыстойнае адзенне па дзіўных коштах**

Якія вынікі? Выдаюцца прадпісанні прыбраць няякасны і незаконна ўвезены тавар з продажу. Крамы рапартуюць, што выконваюць іх, але адразу ж раскладаюць-развешваюць новае адзенне — такое самае, з парушэннямі. Калі выдаюцца пастановы аб штрафах, то ўладальнікі «азіяцкіх» крамак іх сплачваюць — і працуюць далей. Пры звышпрыбытках гэта, гледзячы па ўсім, не праблема.

Таксама сем'і з нізкім узроўнем даходаў пераарыентаваліся на пакупку адзення ў крамах сэканд-хэнду і на анлайн-пакупкі. Крамам, якія прадаюць ношаныя рэчы дасталася ад «Беллегпраму» за тое, што нібыта дзве трэціны адзення там — не былое ва ўжытку, а акурат новае. Маўляў, завозіцца з-за мяжы не распрададзены там і істотна патаннелы тавар нават з этыкеткамі. І таму ён павінен адмыслова размытняцца са сплатай увазных пошлін, каб канкурэнцыя была сумленнай. Уладальнікі і прадаўцы «сэкандаў», з якімі пагаварыў «Новы Час», распавялі, што, сапраўды, купляюць яны на гуртовых складах партыі і з новым адзеннем. Але іх адсотак не сягае за 30%, а ў продаж трапляе яшчэ меней такога тавару. Бо няношанае адзенне зборышага разыходзіцца паміж «сваімі» — супрацоўнікамі і іх сваякамі.

«Беллегпрам» раней ужо рабіў спробы ўскладніць жыццё «сэканд-хэнду». У 2018 годзе з ініцыятывы канцэрна была ўнесеная заканадаўчая норма аб забароне прадаваць праз інтэрнэт патрыманыя рэчы. Прапанаванае табу тычылася толькі анлайн-продажу ІП і юрыдычнымі, а не фізічнымі асобамі. Падстава фармулявалася так: у пакупнікоў няма магчымасці атрымаць у поўным аб'ёме інфармацыю пра стан тавару, яго недахопы, бо апісанняў і фотаздымкаў у інтэрнэце недастаткова для належнага ўяўлення. Апроч таго, даводзілася, што, набываючы такія тавары ў інтэрнэт-краме і ажыццяўляючы дыстанцыйную аплату перад дастаўкай, пакупнікі пазбаўляюцца магчымасці вярнуць тавар. Бо, паводле закона, былыя ва ўжытку рэчы абмену і вяртанню не падлягаюць.

Але па выніках грамадскага абмеркавання, калі паступіла мноства негатыўных водгукаў ад людзей, гэтую забарону з падрыхтаванай пастановы Саўміна выкасавалі. Думаецца, што пакуль у Беларусі ў народа будуць такія даходы, як цяпер, сэканд-хэндам нічога не пагражае. Такія крамы, афлайнавыя ці анлайнавыя, дапамагаюць людзям элементарна выжываць і зніжаюць сацыяльную напружанасць у грамадстве. А ў «сэкандзе» можна купіць прыстойную вопратку проста па дзіўных коштах, асабліва калі разлік ідзе за вагу. Так, адна рэч (скажам, летняя сукенка) можа абысціся ў 3–4 рублі. Для сям'і ў правінцыі з агульным даходам у якія-небудзь 800 рублёў — гэта спажывецкі паратунак. Калі, канешне, людзі не грэбуюць паношанымі рэчамі.

краінаў Еўропы. Стан былых ва ўжытку рэчаў можа быць які заўгодна. На спецыяльных сартавальных фабрыках гэтыя рэчы потым і падзяляюцца на розныя віды і катэгорыі. Далей — у сэканд-хэнды, у тым ліку беларускія.

На гуртавых складах цюкі з патрыманай і стокавай вопраткай прадаюцца на вагу. Для ўяўлення: мех з адзеннем вядомай фірмы C&A прадаецца па 13 еўра за кілаграм, маладзевай Нуре — за 20 еўра, мікс H&M з дэфектамі — за 6, цюк з байкамі — па 2 еўра за кіло, проста мікс — ад 3 еўра ў залежнасці ад якасці. Гуртавыя склады прапануюць зніжкі: каля 10%, калі купляеш у іх ад 500 кілаграмаў, а таксама гатовыя даць менеджарскую кансультацыю ўладальнікам новых крамаў.

Апроч адзення вам трэба набыць вешалкі, мэблю, касу і тэрмінал для банкаўскіх картак, прымерачныя з люстэркамі і гэтак далей. Агулам стартавы капітал ацэньваецца ў 6–8 тысяч долараў. Акупіцца, калі ўсё пойдзе добра, выдаткі павінны праз паўгода-год. Яшчэ адна падказка: узімку ў гандлі сэканд-хэндаў — адчувальны мёртвы сезон. Таму заняцца падрыхтоўкай да адкрыцця такой крамы варта халоднай парой, каб увесну ўзяць старт.

**Ланцужкі б/у**

«Новы Час» пагутарыў з былым гаспадаром крамы сэканд-хэнд. Аляксей прадаў бізнес сваяку пасля таго, як вырашыў пайсці ў сферу IT, але па інерцыі мае інтарэс да сэканд-хэнду і сочыць за тым, што адбываецца на гэтым рынку.

— Крамаў стала значна болей, і я заўважыў такую тэндэнцыю, што прадпрымальнікі, якія імі валодаюць, стараюцца неяк вылучацца. Напрыклад, спецыялізавацца толькі на дзіцячай вопратцы і абутку. Або ўсё болей пераходзіць на адзенне вядомых марак і на сток. У выніку ёсць цэлы шэраг крамаў, якія ўжо мала падобныя да сэканд-хэнду. Там могуць вісець джынсы коштам пад 100 рублёў!

Аляксей кажа, што «сэканды» ніколі не былі выключна «крамамі для бедных». Некаторыя палююць там на новыя ці крыху патрыманыя прыстойныя рэчы проста дзеля эканоміі, каб болей траціць на падарожжы ці самаразвіццё. Для некаторых гэта пераўтвараецца нават у імпэтнае хобі: здабыць нешта цікавае і недарагое. Хтосьці купляе адзенне для дзяцей, бо тыя хутка растуць, таму часта абноўкі хапае толькі на адзін сезон.

— А для многіх, асабліва маладых людзей, сэканд-хэндавыя крамы — сродак зарабіць, — распавядае наш суразмоўца. — Графік новых прывозаў усім вядомы. Студэнты, напрыклад, прыходзяць да пачатку працы крамы ў гэтыя дні і спрактыкаваным вокам вельмі хутка выцягваюць фірмовае адзенне. Потым у пральню, «лэйбу» нашываюць пры патрэбе — і на сайты аб'яваў як купленае калісьці для сябе за мяжой. Натуральна, ставяць кошт у разы болей. Моладзь так лёгка «падымае» ад 200 долараў на месяц. А ёсць такія, што купляюць у інтэрнэце купленае ў сэканд-хэндзе і яшчэ раз перапрадаюць. Па сутнасці, гэта вяртанне «фарцоўшчыкаў», што былі ў Савецкім Саюзе. І такі бізнес можа быць. Народ круціцца, прадпрымальніцкую жылку, як кажуць, развівае!

Значна больш сур'ёзная і клапатлівая справа — адчыніць сваю фірму па рамонце ці шыцці адзення. На добрае абсталяванне вам спатрэбіцца пад 2 тысячы долараў, хаця можна набыць і танней былое ва ўжытку. Па капітале ўваход у такі бізнес таксама недарагі, але лепей ім займацца тым, хто можа рабіць нешта сваімі рукамі: шыць-краіць-мадэляваць. Попыт абавязкова будзе: індывідуальнае шыццё ва ўсе часы запатрабаванае — не ўсім людзям пасуюць стандартныя крамныя памеры, дый эксклюзіўная вопратка заўжды ў цане, а малыя даходы значнай часткі народа паспрыяюць замовам на рамонт адзення дзеля адтэрміноўкі пакупкі новага. Дарэчы, з рамонтам прасцей — узяў і выправіў праблему, а вось для індывідуальнага шыцця патрэбнае яшчэ ўменне камунікаваць з заказчыкам. Таму спачатку хіба лепей патрэніравацца на знаёмых, арганізаваўшы «хатняе атэлье».

Пры канцы падказка, якая можа прыдасца. Калі нестае грошай на адкрыццё сваёй справы, адзін са спосабаў іх знайсці — са статусам беспрацоўнага звярнуцца па беззваротную субсідыю на пачатак свайго бізнесу. Яе не даюць паўторна і тым, хто спыніў прадпрымальніцкую ці рамесніцкую дзейнасць менш за год таму. Трэба мець бізнес-план і, пажадана, профільную адукацыю ці ўменне. Памер субсідыі — 11 бюджэтаў пражытковага мінімуму. Для сельскай мясцовасці — 15. Калі ваш бізнес будзе нейкім чынам звязаны з укараненнем навукова-тэхнічных распрацовак, то маеце права на 20 субсідыйных БПМ. А роўны БПМ цяпер 231 рублю.

Можна ўзяць крэдыт, але банкі дадуць яго прадпрымальнікам без досведу толькі пад заклад маёмасці ці пад заруку. Аднак фінансавыя кансультанты не раяць браць крэдыт, але калі ўжо без гэтага нявыкрутка, то, каб мінімізаваць імаверныя страты, няхай ён складае толькі каля чвэрці вашых укладанняў у адкрыццё бізнесу.






**У асноўным адзенне беларускіх брэндаў прадаецца афлайн, але пакрысе развіваецца і анлайн-продаж. Зірніце, напрыклад, на Bellavka.by — гэты сайт з'яўляецца афіцыйным гандлёвым прадстаўніком 150 швачных прадпрыемстваў Беларусі**

# Італьянізацыя беларускай моды

Вольга БУЖАВА

**Nelva, Burvin, Lakbi, Bazalini — многія сустракалі гэтыя брэнды адзення ці маюць іх у сваіх шафах, нават не ведаючы, што яны беларускія. Пры ўсіх праблемах лёгкай прамысловасці краіны ў гэтай галіне хапае дастаткова паспяховых праектаў — пераважна, гэта прыватныя фірмы. Гучныя маркі выраслі з маленькіх сямейных атэлье. Хаця і на фабрыках пад куратарствам дзяржавы ад Бабруйску да Рэчыцы ў розныя часы шылі рэчы на замову для сусветна вядомых Armani, Pierre Cardin, Hugo Boss, Adidas, Nike, S.Oliver, Next. Так што могуць вельмі файна шыць — трэба толькі добра жыць!**

Цэнтр швачнай прамысловасці Беларусі і сапраўдная сталіца моды — Брэст. Тут размешчаныя дзясяткі швачных вытворчасцяў, працуюць знаныя дызайнеры, дзейнічаюць буйныя спецыялізаваныя гандлёвыя пляцоўкі. Сюды можна ладзіць трыкатаж- ці фэшн-туры як для беларусаў, так і для замежнікаў. Каб пабачыць адразу шмат усяго, завітайце ў Брэсце на адкрыты рынак «Стары горад» на вуліцы Луцкая або ў гандлёвы цэнтр «Беларускі трыкатаж» з трыма сотнямі павільёнаў.

### Брэст як Мілан

Брэст быў вядомы швачнай прамысловасцю па ўсім СССР. Тады гэта былі дзве флагманскія фабрыкі: «Надзея» і «Элма» (не блытаць з мінскай «Элемай»). Мадэрнізаваўшыся нямецкім і японскім абсталяваннем, яны працуюць і дагэтуль. Напрыклад, гандлёвыя маркі Lemur ды Enfant Sage, пад якімі шыецца дзіцячае адзенне, належаць «Надзеі». А «Элма» прапануе марку Barbara Geratti, у вырабах якой, як рэкламуецца, выкарыстоўваецца толькі натуральная італьянская воўна. Кошты на такія сукенкі — ад 250 рублёў. У асноўным адзенне беларускіх брэндаў прадаецца афлайн, але пакрысе развіваецца і анлайн-продаж. Зазірніце, напрыклад, на Bellavka.by — гэты сайт з'яўляецца афіцыйным гандлёвым прадстаўніком 150 швачных прадпрыемстваў Беларусі. Асцярожна: у інтэрнэце хапае падробак самых вядомых нашых брэндаў. Калі бачыце прапановы ў сацыяльных сетках — гэта дакладна кантрафакт.

Апошнім часам болей на слыху наваствораны пры незалежнасці брэсцкія фірмы па шыцці вопраткі. Усе яны экспартаарыентаваныя. Асноўны рынак збыту — Расія. Беларускі трыкатаж там наогул у пашане. Сваю прадукцыю брэсцкія швачныя фірмы прадаюць на згаданых намі вышэй буйных пляцоўках як гуртам, так і ў раздроб. Ну і, уласна, праз крамы ў Беларусі, Расіі і ва Украіне.

Да прыкладу, Nelva паўстала ў 1998 годзе як невялічкая швачная вытворчасць Івана Гарашэвіча і яго сям'і. Сёння гэта дастаткова буйная кампанія з цэхамі ва ўласных будынках і з болей як 200 мадэлямі вопраткі ў сезон. Сукенкі тут каштуюць прыкладна ад 100 рублёў. Але рэгулярна ладзяцца распродажы з істотнымі зніжкамі — усё паводле законаў індустрыі моды.

Burvin — яшчэ адзін сямейны бізнес з канца 1990-х гадоў. Назва кампаніі — ад прозвішча стваральнікаў, мужа з жонкай Вольгі і Сяргея Бурвін. Тут выпускаюць 700 мадэляў жаночай вопраткі на год. Яшчэ адна вядомая фірма — Condra Deluxe. Назва вытворная ад прозвішча заснавальніцы Вольгі Кандрацюк. Пачынала яна з таго, што шыла сябрам і знаёмым. Вольга Кандрацюк скончыла вучэльню па спецыяльнасці «краўчыха», працавала на згаданай «Элме». Апрача ўмелых рук, патрэбнае і крэатыўнае бізнес-мысленне. Кандрацюк у свой час увішна зарабляла на шыцці спадніц: у модзе былі чорныя спадніцы, але чорная тканіна была ў дэфіцыце, таму прадпрымальніца купляла памаранчавую і фарбавала яе ў патрэбны колер.

Дарэчы, пра дэфіцыт. Можна пачуць нямала гісторыяў ад паспяховых людзей у швачнай вытворчасці пра тое, што яны натхняліся гэтай справай у складаныя часіны. Калі бачылі, як іх бацькі вышукваюць кавалкі тканінаў, з якіх шыюць самі ці замаўляюць у знаёмых шыццё адзення, якое можна насіць і адрознае ад сціплага асартыменту крамаў пры канцы 1980-х і ў пачатку 1990-х гадоў. Можна сказаць, што ў гэтым плане Брэст падобны да Мілану, дзе менавіта ў складаныя пасляваенныя часы паўставалі модныя швачныя вытворчасці менавіта як дробныя сямейныя бізнесы.

Занатуйце ў памяці іншыя папулярныя брэнды, на якія працуюць у тым ліку нашы дызайнеры з сусветна вядомымі імёнамі: Lakbi, Bazalini, Panda, Achosa, SoLei, Faufilure, Papilio, Favorini, Kiara, Mozart. Так, назвы фірмаў ці гандлёвых марак цяпер такія, што, калі бачыш шыльду на краме, дык страшна заходзіць, бо ўяўляецца, што гэта люксавы італьянскі ці французскі брэнд. Не тое, што звыклыя для нашага вуха «Славянка», «Світанак», «Купалінка», «Любава», «Алеся», «Камінтэрн», «Элема». А вось — да ведама — некалькі «заходніх» брэндаў, якія належаць расійскім бізнесоўцам і прысутнічаюць у Беларусі: Oodji, Gloria Jeans, Finn Flare.

### Адказ старажылаў

З брэндаў-старажылаў самай паспяховай застаецца «Элема», акцыямі якой дзяржава цяпер валодае толькі ў памеры 16,8%. Астатняе — у шэрагу фізасобаў і прыватных кампаніяў, кантрольнага пакета няма пакуль ні ў каго. Чысты прыбытак «Элемы» ў 2018 годзе склаў амаль 2,5 мільёны рублёў. Пачынала кампанія як швачная фабрыка імя Крупскай у 1930 годзе з вырабу ватовак і спецыяльнай мужчынскай вопраткі. А з 1950-х і па сёння спецыялізуецца на жаночым адзенні — паліто, курткі, касцюмы, сукенкі і гэтак далей. Дарэчы, ведаеце, як расшыфроўваецца назва «Элема»? Аказваецца, гэта беларускамоўная абрэвіятура ад «Элегантнае моднае адзенне».

**Зніжкі і розныя акцыі цяпер прапануюць усе, а «Купалінка» з Салігорску яшчэ ловіць і патрыятычны трэнд. У калекцыі «Я люблю Беларусь» выкарыстоўваецца арнамент на цішотках і шкарпэтках. То-бок, вышымайкі ўвайшлі і ў асартымент дзяржаўных прадпрыемстваў**

Сёлета «Элема» паспрабавала паспрыяць элегантнасці беларускіх мужчын. Яна запусціла лінейку Etelier. Пачалі з верхняга мужчынскага адзення, але ў планах — пінжакі, штаны ды кашулі, якія будуць прадавацца ў крамах толькі з мужчынскімі рэчамі пад аднайменнай шыльдай. Будзе канкурэнцыя з гомельскім «Камінтэрнам», які з'яўляецца лідарам па выпуску класічных мужчынскіх гарнітураў і які сёлета адзначыў 100-годдзе. У мінулым годзе прадпрыемства было выведзенае са складу канцэрна «Беллегпрам», але ў дзяржавы па-ранейшаму кантрольны пакет — 54%. Паглядзім, як гэта адаб'ецца на дзейнасці «Камінтэрну».

Мужчынскімі бізнес-гарнітурамі вырашылі заняцца і на «Камволі», які спецыялізуецца на вырабе тканін. Гэта вынік працы створанага тут нядаўна дызайн-цэнтра, якім кіруе вядомая мадэльерка Эльвіра Жвікава. Гарнітуры будуць элітныя, шыцца ўручную і прадавацца пад адмысловай гандлёвай маркай.

«Камволь» — мінскае прадпрыемства, якое рэгулярна наведвае Лукашэнка, патрабуючы выпускаць якасныя тканіны, што выкарыстоўвалі б у сваёй вытворчасці айчынныя швачныя прадпрыемствы. Падчас аднаго з візітаў на «Камволь» Лукашэнка ставіў яго кіраўніцтву і працаўнікам у прыклад свой «італьянскі гарнітур», але, як выявілася, тое, у чым быў у той момант кіраўнік краіны, пашылі ў спецатэлье... акурат з тканіны камвольнага камбіната! Паводле кіраўніцтва «Камволя», у Лукашэнкі па-ранейшаму ёсць некалькі гарнітураў з іх тканіны. А якасць яе праз пяцігадовую мадэрнізацыю прадпрыемства ў 2012–2017 гадах значна палепшылася. Гэта — вынік укладзеных 110 мільёнаў долараў. Застаецца спадзявацца, што, рэкламуючы свае новыя калекцыі, швачныя фірмы стануць часцей акцэнтаваць увагу, што рэчы пашытыя з беларускага матэрыялу, — а не з італьянскага, як нярэдка бывае цяпер.

Што яшчэ змянілася на лепшае ў фэшн-індустрыі ў Беларусі, дык гэта рэгулярныя зніжкі. Прычым, яны сталі істотныя, як у Заходняй Еўропе — ад 20% і да 70%. Асабліва прыемна, калі купляеш па зніжцы не шырспажыўную вопратку, а дызайнерскую рэч з лімітаванай партыі. І танна, і амаль эксклюзіўна.

Зніжкі і розныя акцыі цяпер прапануюць усе, а вось «Купалінка» з Салігорску ловіць патрыятычны трэнд. У калекцыі «Я люблю Беларусь» прадпрыемства выкарыстоўвае арнамент на цішотках і шкарпэтках. То-бок, вышымайкі ўвайшлі і ў асартымент дзяржаўных прадпрыемстваў.

Калі вы хочаце пазнаёміцца з беларускай індустрыяй моды ды прыцаніцца, што вам пасуе, завітайце на Тыдзень беларускай моды «Belarus Fashion Week». Мерапрыемства якраз праходзіць у Мінску з 14 па 20 кастрычніка.

# Сцеражыцеся клоуна

Алег НОВІКАЎ

**Калі верыць шматлікім заходнім медыя, увесь свет знаходзіцца на парозе хвалі гвалту і тэрору, які правакуе фільм «Джокер».**



Фота www.gazeta.ru

«Новы Час» ужо згадваў кур'ёзныя публікацыі ў заходніх СМІ наконт таго, што стужка «Джокер» можа справакаваць цнатлівых мужчынаў на акцыі гвалту. Аднак высвятляецца, што сітуацыя з тым фільмам сапраўды сур'ёзная.

Аказваецца, яшчэ напярэдадні прэм'еры ФБР заклікала амерыканскіх сілавікоў быць больш пільнымі як мінімум падчас паходаў у кінатэатры. На думку ФБР, сцэны на экране здольныя падштурхнуць неадэкватнага гледача, які знаходзіцца ў кіназале, пачаць страляць па людзях. Прычым найперш пад агонь могуць трапіць менавіта сілавікі і чальцы іх сем'яў. Забараніць дэманстрацыю «Джокера» ў кінатэатрах заклікалі родныя тых амерыканцаў, хто раней стаў ахвярай вар'ятаў, якія стралялі па людзях.

Ці сапраўды стужка рэжысёра Тода Філіпса нясе такую маштабную пагрозу грамадскай бяспецы? Што можа быць крамольнага ў гісторыі клоуна Артура Флейка, у якога праз жыццёвыя праблемы, што называецца, «паехаў дах»? Выхад з крызісу герой, ролю якога выканаў акцёр Хаакін Фенікс, шукае ў нематываваных забойствах.

Як мінімум два эпізоды ў мінулай гісторыі Злучаных Штатаў сапраўды прымушаюць прыслухацца да тых, хто баіцца «Джокера». Захапленне гэтым персанажам у фільме «Цёмны рыцар» у 2012 годзе натхніла Эліята Роджэра адкрыць агонь па наведвальніках кінатэатра студэнцкага кампусу ў Санта-Барбары (Каліфорнія). У сувязі з гэтым сям'я Эліята нават спрабавала дамагчыся ад кінастудыі Warner Bros. прыпыніць здымкі фільма. Пратэстуюць супраць фільма і прыхільнікі свабоднага продажу зброі.

Варта таксама ўзгадаць, што Барак Абама ў 2016 годзе казаў: тэрарысты групоўкі «Ісламская Дзяржава» адкрыта капіруюць стыль Джокера ў «Цёмным рыцары», змагаючыся адначасова супраць крымінальнай эліты і палітычнага істэблішменту, што забяспечвае ім папулярнасць.

Па-другое, фабула «Джокера» нагадвае сюжэт іншага культавага фільму — «Таксіст» (1976 года), дзе Роберт дэ Ніра выконвае ролю таксіста — ветэрана В'етнамскай вайны, які на глебе псіхічных хваробаў пачынае «чысціць горад ад бруду». Вядома, што фанатам «Таксіста» быў у тым ліку Джон Хінклі, які, капіруючы героя дэ Ніра, страляў у прэзідэнта Рэйгана ў 1981 годзе.

У прэсе акрэсліваць як мінімум тры катэгорыі людзей, якія пабачаць у фільме Тода Філіпса нейкі маніфест. Першая — гэта людзі, якія адчуваюць сябе не рэалізаванымі ў жыцці, недаацэненымі атачэннем. Стужка, маўляў, актывуе іх устаноўку на гвалт, прапануючы небяспечны рэцэпт выхаду з экзістэнцыяльнага крызісу. «Я мяркую, што мая смерць будзе мець больш сэнсу, чым жыццё», — піша ў сваім дзённіку на экране Артур Флэйк.

**Барак Абама яшчэ ў 2016 годзе казаў: тэрарысты групоўкі «Ісламская Дзяржава» адкрыта капіруюць стыль Джокера ў «Цёмным рыцары», змагаючыся адначасова супраць крымінальнай эліты і палітычнага істэблішменту**

Другі адрасат фільму — актыў радыкальных палітычных антысістэмных рухаў. На экране клоун выпадкова забівае нейкіх мажораў, чым выклікае масавы народны рух «Забі заможнага».

Нарэшце, фільм адразу спадабаўся змагарам за белую расу. Тое, што герой Хаакіна Фенікса беласкуры, на іх думку, не выпадкова. Пакуты клоуна прапануецца разглядаць як метафару адчужанасці сучаснага белага чалавека ад грамадства, дзе пануе ідэалогія фемінізму і мультыкультуралізму.

У любым выпадку, стужка выклікае відавочную сімпатыю на адрас асобы з псіхічнымі праблемамі, які вырашае свае комплексы шляхам забойстваў.

Панікёрам апаніруе група кінакрытыкаў і культуролагаў, паводле якіх падбухторваць да гвалту ў рэальным жыцці можа ўсё што заўгодна. Не кажучы пра тое, што сучасны глядач цудоўна разумее розніцу між падзеямі на экране і сапраўдным жыццём, якое пачынаецца пасля заканчэння сеансу. На іх думку, прагляд карціны выклікае не імкненне забіваць, а выключна пачуццё жалю наконт лёсу Артура Флейка. Гэта ўскосна пацвярджаецца тым, што за першую дэкаду пракату «Джокера» ў кінатэатрах ніякіх гвалтоўных інцыдэнтаў на глебе прагляду стужкі не фіксавалася.

Акрамя таго, такія абвінавачванні на адрас фільмаў — не першыя. «Завадны апельсін» Стэнлі Кубрыка прыбралі з кінатэатраў, паколькі моладзь пачала пераймаць стыль хуліганаў на экране. Аўтарам «Прыроджаных забойцаў» выстаўлялі іскі за тое, што фільм, маўляў, натхняў на злачынствы.

Аднак чакаць крывавай Ніягары, якую, маўляў, выклікае «Джокер», не варта. Таму можна не панікаваць, а рыхтавацца да цырымоніі ўручэння прэміі «Оскар», які стопрацэнтна свеціць аўтарам і акцёрам «Джокера» пасля цяперашняга фурору. Акрамя інтарэсу кінакрытыкаў, стужка толькі ў Злучаных Штатах і Канадзе за першы ўік-энд атрымала 80 мільёнаў долараў. Праўда, усе дапускаюць, што ў выпадку нейкага форс-мажору, які могуць арганізаваць паслядоўнікі Артура Флэйка, атрымаць запаветную статуэтку будзе дастаткова цяжка. Некаторыя сябры журы кажуць, што «Оскар» для фільма з такім супярэчлівым падтэкстам будзе праявай безадказнасці.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Новыя прыгоды багатыроў

Як ні дзіўна, казачны эпас апошнім часам імкліва палітызуецца. У Кіеве намагаюцца афіцыйна прызнаць, што казачны асілак Ілля Мурамец родам не з Мураму (Разанская вобласць), а з аднайменнага горада ў Чарнігаўскай вобласці. І вось новы эпізод. Башкірскія нацыяналісты выявілі ў тэатральных афішах з анонсам дзіцячага спектакля «Тры багатыры і Салавей-разбойнік» «дэсакралізацыю башкірскіх каштоўнасцяў». Дэсакралізацыя праяўляецца ў тым, што на названых афішах Салавей-разбойнік намаляваны «відавочным башкірам», і больш за тое, быццам, падобны да Салавата Юлаева — башкірскага нацыянальнага героя. Актывісты выставілі тэатру ўльтыматум — зняць п'есу з прэм'еры або прыцягнуць аўтара афішы па артыкуле «Узбуджэнне нянавісці». Тэатр у выніку прынёс прабачэнні і замовіў новыя афішы. Зрэшты, як жартуюць у сеціве, па вялікім рахунку, любая выява Салаўя-разбойніка будзе нагадваць асобу цюркскай народнасці. Як вядома, былінны стваральніся ў перыяд цеснага і далёка не заўсёды мірнага суседства княстваў Кіеўскай Русі з плямёнамі Вялікага Стэпу.

**Паводле расійскай прэсы**

### КІТАЙ. Ці стане Маа вегетарыянцам?

Падчас нядаўніх святкаванняў 70-й гадавіны Кітайскай Народнай Рэспублікі яе лідар Сі Цзіньпін заявіў, што цяперашнія пратэсты ў Ганконгу не з'яўляюцца галаўным болем для Пекіна. І, магчыма, у чымсьці ён меў рацыю. Сапраўдны галаўны боль для Кітая ўяўляюць свінні, а дакладней — дэфіцыт свініны. Калі верыць заходняй прэсе, унутры Кітая нарастае незадаволенасць з прычыны росту коштаў на мяса. Традыцыйна на выходныя або святы кітайцы гатуюць стравы са свініны. Рэгулярнае ўжыванне свініны лічыцца сімвалам прыналежнасці да больш-менш заможнага класу. У лепшыя часы кітайцы штогод з'ядалі 55 мільёнаў тон свініны. Аднак у гэтым годзе спажыванне скароціцца прыкладна на 10 мільёнаў тон. Галоўны чыннік росту коштаў на свініну — эпідэмія свіногай грыпу, што знішчыла трацiну кітайскіх парасят. Недахоп намагаюцца кампенсаваць за кошт імпарту, аднак пакуль знізіць кошты не атрымліваецца. У прэсе нават пішуць, што кітайскія чыноўнікі задумаліся, як інтэграваць ідэі вегетарыянства з вучэннем марксізму-ленінізму — афіцыйнай ідэалогіяй камуністычнага Кітаю.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Знайшлі адказнага за ўсё

Чым далей Брытанія ўцягваецца ў крызіс, выкліканы Brexit, тым больш версій наконт яго глыбінных прычынаў. Цяпер іх пачынаюць шукаць у падзеях даўно мінулых дзён. Менавіта там, на думку гісторыкаў, хаваюцца крыніцы фарміравання калектыўных еўрафобскіх забабонаў. І, падаецца, такая крыніца знойдзеная. Гэта даклад брытанскага міністра транспарту Рычарда Бічынга ў 1963 годзе. У ім міністр заклаў формулу развіцця сістэмы транспартных камунікацый у Брытаніі, якая гучыць прыкладна так: «Будучыня за машынамі, а не за цягнікамі». Практычная рэалізацыя такой схемы прывяла да закрыцця шматлікіх чыгуначных станцый (больш за 2 тысячы з 7 тысяч існуючых на той момант). Паводле разлікаў Бічынга, на месца цягнікоў павінны былі прыйсці рэйсавыя аўтобусы, аднак гэтага не здарылася. Затое многія населеныя пункты апынуліся ў моцнай ступені адрэзаныя ад вялікіх гарадоў. Тут з часам склалася і законсервавалася своеасаблівая палітычная культура, носьбіты якой асцярожна ставяцца да любых інавацый, у тым ліку і інтэграцыі краіны ў ЕС. У 2016 годзе гэта адгукнулася ў Brexit. Зрэшты, Бічынг, які памёр у 1985-м, ужо не зразумее катастрафічных наступстваў яго рэформы.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Каровы спыняць пратэсты?

У Казахстане назіраецца незвычайная з'ява, калі шматдзетныя маці выходзяць на вуліцы, патрабуючы дапамагчы ў вырашэнні сацыяльных і жыллёвых праблем. Усё пачалося пасля пажару ў часовых будынках на ўскраіне казахскай сталіцы, які забраў жыцці пяці сясцёр. Іх бацькі ў момант здарэння былі на працы. Гібель дзяцей атрымала шырокі розгалас, і ў шэрагу гарадоў рэспублікі прайшлі стыхійныя сходы. Улады ў адказ на акцыі прапанавалі свой варыянт паляпшэння ўмоваў жыцця. У афіцыёзе прапагандуецца вопыт маці шасцярых дзяцей Макі Асхабавай. Тая раіць шматдзетным маці дамагацца фінансавага дабрабыту не з дапамогай мітынгаў, а шляхам развядзення буйной рагатай жывёлы. «Паважаныя жанчыны, працуйце! Мітынгамі і пратэстамі вы нічога не будзеце мець, а своечасова ўзяць сябе ў рукі і ісці да мэты ніколі не позна», — звярнулася яна да казахскіх жанчын. Падаецца, улады не жартуюць наконт ідэі каналізацыі пратэстаў з дапамогай кароваў. Дзяржаўныя банкі ўжо пачалі выдаваць крэдыты на набыццё худобы.

**Паводле казахскай прэсы**

# Жалезам (і каменем) па шкле

## Забыты яўрэйскі пагром у Гродне

Алесь КІРКЕВІЧ

**Познім вечарам 7 чэрвеня 1935 года ў зарослы зялянінай ды абседжаны чорнымі ды рудымі катамі-бадзягамі дворык старога Гродна забег запыханы хлапчук. Яго сэрца калацілася, вочы спалохана зыркалі то ўправа, то ўлева, а ў руках была вялізная банка з марозівам. Свой салодкі скарб кемлівы хлапчук хуценька схаваў пад грушай, што расла ў двары, а сам пайшоў дадому...**




Антысеміцкая маніфестацыя з патрабаваннем гета для яўрэяў у міжваенным Львове

Маці зрабіла хлопцу страшэнны разнос: і вярнуўся позна, і ў горадзе, маўляў, неспакойна, а на нагах у сыночка... новыя боцікі. Адкуль? Сям'я ж бедная: акрамя яго яшчэ чацвёра дзетак. «Я не ведаю, — апраўдваўся заплаканы хлопец. — Усе беглі па вуліцы, і я бег. А там, у краме, была выбітая шыба... Тады адзін пан у вайсковым мундзіры кажа мне: "Што ж ты, хлопча, ходзіш басанож? Абувайся!" Пан той акуратна прасунуў руку на вітрыну, каб не парэзацца шклом, і дастаў мне боцікі...»

Тая крама з абуткам на Дамініканскай (сёння Савецкай) вуліцы належала яўрэям, а вечар 7 чэрвеня 1935 года тагачасныя жыхары горада запомнілі як апошні ды адзіны ў міжваенным горадзе яўрэйскі пагром.

### «Няма ўжо вашага "дзядка", ніхто вас не абароніць!»

У 1935 годзе і пасля па Польшчы пракацілася цэлая хваля яўрэйскіх пагромаў. Адной з прычынаў, як лічаць гісторыкі, стала смерць маршалка Пілсудскага, які цвёрдай рукой стрымліваў як «левых», так і «правых». Скрайне правыя палітычныя сілы нарэшце адчулі магчымасць вырвацца з катэгорыі маргінэсу ды рэалізаваць свае, у тым ліку антысеміцкія, задумы. Паводле згадак, некаторыя пагромшчыкі так і казалі сваім ахвярам: «Няма ўжо вашага "дзядка" [Пілсудскага], ніхто вас не абароніць!»

Гісторыкі таксама заўважаюць, што важнай прычынай была мадэрнізацыя і «нацыяналізацыя» гарадской прасторы. Яўрэйская і польская моладзь усведамлялі сябе ўжо не толькі носьбітамі розных рэлігійных традыцыяў, але і цалкам рознымі нацыянальнымі супольнасцямі. Рост сіяніцкіх настрояў сярод яўрэяў супаў з ростам польскага нацыяналізму. Такім чынам, прорва паміж дзвюма супольнасцямі паглыбілася.

Прычынай кожнага канкрэтнага пагрому быў прэцэдэнт. У Брэсце такім прэцэдэнтам стала забойства паліцыянта. У тагачаснай Польшчы былі забароненыя яўрэйскія рэзні, дзе жывёлу забівалі паводле «негуманнага» іудзейскага звычаю (жывёла гінула не імгненна, кроў павінна была сплываць паступова). Падчас выкрыцця такой таемнай рэзні і адбылося забойства: яўрэй ударыў паліцыянта-паляка нажом у спіну. Той памёр, а гісторыя набыла розгалас ды справакавала беспарадкі.

### «Тады амаль кожны яўрэй насіў ножык...»

Аналагічны прэцэдэнт меў месца і ў Гродне. 22-гадовы Уладзіслаў Кушч, навучэнец Марской школы ў Гдыні, прыехаў на вакацыі ў родны горад і пайшоў на танцы ў залю на вуліцы Брыгіцкай (сёння Маркса). Там завязаўся канфлікт праз дзяўчыну, у выніку чаго ў браме суседняга будынку Кушча парэзалі нажом. Сімвалічна, што параненага хлопца павезлі ў яўрэйскі шпіталь (сёння — Чыгуначны шпіталь), які апынуўся найбліжэйшым. Там Кушч і памёр.

Тут варта зрабіць рэмарку. Наколькі звычайным быў падобны выпадак? Панажоўшчына на танцах у цэнтры горада — норма? Паводле тагачасных газетаў — так. Інфармацыя пра бойкі з выкарыстаннем нажоў, у якіх удзельнічала па 5–6 чалавек, трапляла ў прэсу рэгулярна, ледзьве не штодня. Напрыклад, у дзень забойства Уладзіслава Кушча на Леванабярэжнай вуліцы адбыўся падобны канфлікт. Адно, што пацярпелым апынуўся яўрэй, якому пашчасціла выжыць.

«Тады амаль кожны яўрэй насіў з сабою ножык, які хаваў недзе збоку», — узгадвае гродзенец Казімір Сальвясюк [Тут і далей большасць успамінаў падаецца паводле кнігі Кулевіча «Горад адзін, успаміны розныя»]. Былі і больш выкшталцоныя механізмы. Напрыклад, гірка, якая мацавалася на зачэпе на спружыну і ў патрэбны момант выстрэльвала з рукава, каб прабіць грудзі ці скалечыць твар апаненту. Па горадзе ў тыя гады бадзялася шмат беспрацоўнай моладзі, таму па вечарах шпацыраваць трэба было вельмі асцярожна.

### Пахавальная працэсія як запрашэнне на пагром

Пахаванне Уладзіслава Кушча было прызначана на 7 чэрвеня а 5-й увечары. Працэсія рушыла ад ягонага дому на Брыгіцкай у бок Фарных могілак. Развітацца прыйшлі сотні гродзенцаў, прыехалі калегі-маракі, а таксама прадстаўнікі радыкальных правых арганізацый. Немалую, як на 60-тысячны горад, працэсію, да якой перманентна далучаліся новыя і новыя ўдзельнікі, суправаджалі ўсяго... 13 паліцыянтаў.

На могілках усё абышлося без эксцэсаў, хаця інфармацыя і тут трапляецца супярэчлівая. Паводле адных звестак, пахаванне пераўтварылася ледзьве не ў мітынг, паводле іншых — прамовы былі забароненыя, усё абмежавалася традыцыйнымі малітвамі. Фармат мерапрыемства пачаў змяняцца, калі натоўп стаў вяртацца з могілак у горад. Каля тысячы чалавек прайшліся па Ерусалімскай, Брыгіцкай, Дамініканскай ды іншых вуліцах, а пасля рассыпаліся па ўсім цэнтры, б'ючы шыбы крамаў, вокны, збіваючы ды калечачы яўрэяў, якія траплялiся на шляху.

Зрэшты, не заўсёды толькі яўрэяў: чарнявы мужчына сярэдніх гадоў пацярпеў таму, што быў падобны на яўрэя і назіраў за працэсам са свайго гаўбца. «Я не яўрэй!» — галасна лямантаваў чалавек. «Ну дык няхай пан пад яўрэя не падрабляецца!» — прагучаў у адказ аргумент пагромшчыкаў. Мужчыну выкінулі з гаўбца на брукаваную вуліцу.

### «Хлопцы з палкамі білі вітрыны, а мы, дзеці, хадзілі за імі...»

Пагром трываў да позняй ночы, а яго тэрыторыя ахапіла і Занёманскі фарштат. Паліцыя не ўмешвалася. Цікава, што пагромшчыкі так і не ўвайшлі на тэрыторыю, максімальна шчыльна заселеную яўрэйскім насельніцтвам — раёны вуліцы Замкавай ды сённяшняй Вялікай Траецкай (у 1941-м акурат там і паўстала гета). Сцвярджаюць, што там на хуткую руку пачалі арганізоўвацца атрады яўрэйскай самаабароны, што і спыніла раз'юшаных пагромшчыкаў.

«Пасля гэтага выпадку [забойства Кушча] палякі зладзілі ў горадзе пераварот, — узгадвае Анатоль Пясняк. — Білі ўсё, што было яўрэйскае, нават забівалі людзей. Мы жылі ў цэнтры, таму ўсё было добра відаць з вакна. Але на вуліцу з нашых ніхто не выходзіў, было страшна. Паліцыя не спрабавала спыніць пагромы. Яны працягваліся двое сутак. Пасля ўсё сціхла і горад зноў жыў звычайным жыццём».

Цікава, што Казімір Сальвясюк узгадвае, што ў пагромах удзельнічалі не толькі цывільныя: «Праз некалькі дзён пасля забойства ў горадзе з'явіліся вайскоўцы, разам з палякамі яны пачалі граміць яўрэйскія крамы. Яўрэі ўсе пахаваліся. Не сказаць, што іх было менш: насельніцтва ў нас было 50 на 50. Яўрэі разумелі, што нават паліцыя на баку палякаў. Шчыра кажучы, і я прыняў удзел: давялося скрасці селядца ў краме...»

92-гадовы Стэфан Хоцей, якому на той момант было ўсяго 8 гадоў, таксама прыняў удзел у пагроме: «Тры дні маладыя хлопцы 18–20 гадоў хадзілі з палкамі і білі яўрэйскія вітрыны, а мы — дзеці — хадзілі за імі. Казалі нам усё з крамаў выкідаць на вуліцу. Памятаю, на плошчы Баторыя быў добры магазін з роварамі, радыё, музычнымі інструментамі, то мы ўсё выкідалі. Крычалі тады: "Бі жыда!", а на кожным куце пісалі "Не купляй у жыда"».

Зноў жа, спадар Хоцей узгадвае, што гарадскія ўлады ды ахоўнікі парадку цалкам праігнаравалі падзею, даўшы пагромшчыкам карт-бланш: «У цэнтры стаяла паліцыя і салдаты, але ніхто не спрабаваў спыніць пагром. Была поўная свабода. Хто хацеў, той мог выносіць усё, што заўгодна, з яўрэйскіх крамаў. Адзінае, што я ўзяў, дык гэта цукеркі ў шкляной банцы. Дадому не панёс, схаваў. Баяўся, што маці пазнае, а так мяне ніхто не пускаў на гэтыя пагромы, я збягаў. На трэці дзень пагромы ў Гродне спыніліся, людзі супакоіліся».

Насамрэч, затрыманні ўдзельнікаў канфлікту ўсё ж былі: яшчэ ўвечары 7 чэрвеня паліцыя арыштавала 59 чалавек, 7 з якіх былі яўрэямі. Ці былі гэтыя сямёра байцамі самаабароны, ці бараніліся індывідуальна, а можа, наўпрост трапілі «пад гарачую руку» — невядома. Агулам страты гораду былі ацэненыя ў 20 тысяч злотых. Яўрэйскія крамы яшчэ пэўны час стаялі зачыненыя, а часам нават забарыкадаваныя. Двое яўрэяў (Беразоўскі і Бехер) падчас пагрому загінулі, дзясяткі былі збітыя ды атрымалі калецтвы.

### У турму ніхто не трапіў

Увосень прыйшоў час і на судовыя разбіральніцтвы. Забойца Уладзіслава Кушча, яўрэй па прозвішчы Штэйнер, 20 верасня 1935 года атрымаў 12 гадоў турмы. Паводле сведчанняў, Штэйнер і раней быў удзельнікам розных канфліктных сітуацый, і ўжо пагражаў некаму на танцах нажом яшчэ за пару тыдняў да забойства маладога марака. Прасачыць далейшы лёс Штэйнера ў гісторыкаў не атрымалася: яго след згубіўся. Іншы ўдзельнік той бойкі на Брыгіцкай — Кантароўскі — атрымаў 2 гады турмы.

Пазней, ужо ў лістападзе таго ж года, перад судом паўсталі 17 удзельнікаў пагрому ўзростам ад 17 да 46 гадоў. Цікава, што сярод іх апынулася і жанчына: 28-гадовая Вольга Жукава. Ніхто з іх сваёй віны не прызнаў, не назваўся арганізатарам. Абвінавачаныя стаялі на тым, што толькі падтрымалі агульную хвалю абурэння, якая панавала на вуліцах гораду. Пры гэтым, некаторыя з падсудных былі схопленыя непасрэдна на месцы злачынства. Напрыклад, 28-гадовага Мікалая Баліцкага ўзялі, калі




Антысеміцкія карыкатуры ў міжваеннай Польшчы

той біў шкло ў сінагозе, маючы ў кішэні нож.

Максімальным выракам стаў адзін год зняволення для 25-гадовага Альфонса Панасюка, аднаго з лідараў «эндэцкай» (нацыянал-дэмакратычнай) моладзі і завадатара шэсця з могілак у горад. Трое атрымалі па дзевяць месяцаў, яшчэ трое — па шэсць. Рэшту прызналі невінаватымі. Але ў турму, як ні дзіўна, так ніхто і не трапіў. Панасюк выйшаў на волю, выплаціўшы штраф у памеры 100 злотых. Астатнім вынеслі вырак з адтэрміноўкай на 5 гадоў.

### «Вашы легіёны — нашы мільёны!»

Ці быў той пагром адзінкавай з'явай, абумоўленай часовай палітычнай кан'юнктурай? Ці існавалі ў горадзе антысеміцкія настроі ў прынцыпе? З 60 тысяч чалавек, якія жылі ў перадваенным Гродне, 24 тысячы лічылі сябе палякамі, 22 тысячы — яўрэямі. Заставалася 15 тысяч, з якіх ад 6 да 8 тысяч складалі беларусы. Рэшта — татары, рускія, украінцы, данскія казакі ды іншыя. Варта адзначыць, што як найбагацейшымі, так і найбяднейшымі жыхарамі гораду былі яўрэі. Пры гэтым у вочы жыхарам найперш кідалася іх заможнасць: рэстараны, крамы, цырульні.

Раіса Шымбарэвіч узгадвае, што яўрэі казалі палякам падчас спрэчак: «Вашы вуліцы — нашы камяніцы, вашы легіёны — нашы мільёны!» Наогул жа, паводле ўспамінаў старажылаў, якія ў 1930-х былі дзецьмі ці падлеткамі, іх бацькі найчасцей закупаліся акурат у яўрэйскіх крамах, дзе маглі «даць на вэксаль»: «Што тычыцца гандлю, то ён цалкам быў за яўрэямі, — узгадвае Ніна Амельянчык. — Добра памятаю краму сям'і Гольдберг на плошчы Баторыя. Уладальнік вялікай крамы, якую мы называлі мануфактурай, быў рабінам. Яго жонка і дачка гандлявалі абуткам».

«У любой краме можна было купіць патрэбную рэч, а калі не было грошай, то давалі ў заклад, — успамінае Анатоль Пясняк. — Наша сям'я так ніколі не брала. Самае цікавае, што палякі масава не гандлявалі ў Гродне, гэтай справай займаліся выключна яўрэі. Палякам цяжка было з імі весці бізнес, бо тыя пастаянна збівалі цану, а людзям лепш купляць тое, што танней. Паляк, такім чынам, ставіўся банкрутам і закрываўся…»

Цяжка сказаць, ці можна лічыць дзіцячыя гульні пэўнай праекцыяй дарослых фінансавых адносінаў, глядзіце самі: «Мы гулялі ў футбол і часта ладзілі "вайну на яўрэяў" на вуліцы Архірэйскай, — працягвае спадар Анатоль. — Можна сказаць, банда на банду ішлі. Кідаліся камянямі і ўсім, што патрапіцца. Быў у нас нават карбід у той час. Разводзілі яго ў бутэльках, кідалі, ён выбухаў».

А вось яшчэ каларытныя ўспаміны ад Генрыха Юхневіча: «Яны гаварылі на мяне "хаммужык". Іх было шмат, але мы іх за гэта чыхвосцілі. Раней, калі ў суботу ў яўрэяў быў шабат, то яны недзе збіраліся, а тым часам палякі на іх нападалі. Яўрэяў адлупілі — і яны ўжо супакоіцца (…). Напрыклад, жулік возьме камень і выб'е шыбу ў краме. Паліцыя яго забірае. Шкоду зрабіў — плаці. Грошай няма — на тры месяцы за краты. Ён ідзе ў турму, сядзіць тры месяцы і выходзіць. Тады турмы не так баяліся».




Савецкія танкі на подступах да Гродна, ілюстрацыя з савецкай тагачаснай прэсы

### Пасля пагрому — «халодная вайна»

Падзеі 1935 года толькі ўзмацнілі непрыязь ды ўзаемныя падазрэнні паміж жыхарамі Гродна розных нацыянальнасцяў, якія раней існавалі на прыхаваным узроўні. Журналіст віленскай газеты «Słowo» Юзаф Мацкевіч, які пабываў у Гродне на пачатку 1936 года, апісвае «халодную вайну» яўрэяў з хрысціянамі, якая выглядала як узаемны байкот. Прынцып просты: хадзіць толькі ў свае крамы, кавярні, цырульні, а на працу браць адно прадстаўнікоў свайго веравызнання.

Аднак можна сустрэць і іранічныя ўспаміны старажылаў: маўляў, каля яўрэйскіх крамаў стаяць маладзёны з зялёнымі гальштукамі, агітуючь: «Не купляй у жыда!», а людзі ідуць сабе і купляюць, бо там танней. Наогул жа масіў асабістых успамінаў вельмі стракаты: можна пачуць як гісторыі канфліктаў, так і гісторыі сяброўства паміж іудзеямі ды хрысціянамі. Той жа Анатоль Пясняк, які распавядаў, як хадзіў на «вайну на яўрэяў» з карбідам, адначасова ўзгадвае, як сябраваў з некаторымі яўрэямі ды дапамагаў ім у шабат, калі тыя не маглі рабіць простых побытавых рэчаў: да прыкладу, распальваць печы. Праўда, рабіў тое хлопец за грошы…




Будынак сінагогі ва Уваравічах (Буда-Кашалёўскі раён). Знесеная ў 2014 годзе. Фота з кнігі «Синагоги Беларуси. Каталог существующих зданий»

Ці можна назваць гісторыю 1935 года класічным пагромам? І так, і не. Гэта не пагром у стылі ўкраінскіх гарадоў і мястэчак да 1917 года, калі беспарадкі доўжыліся працяглы час, суправаджаліся падпаламі і масавымі згвалтаваннямі. Разам з тым, гэта таксама рэдкі выпадак, калі ў сутыкненнях было задзейнічана шмат людзей, а пэўныя колы (польскія «правыя», «эндэкі») спрабавалі надаць падзеі палітычную афарбоўку. Роля паліцыі ды судовыя прысуды ў дадзеным выпадку нагадваюць рэаліі Расіі часоў Мікалая II, калі «чарнасоценныя» антысеміцкія настроі талераваліся ўладай.

### «У дупе твая Польшча!»

Ці можна ў дадзеным выпадку казаць пра міжнацыянальную нянавісць? Магчыма, лепш падыходзіць тэрмін «адчужэнне»? Калі прыняць апошнюю азнаку, то менавіта ў стане ўзаемнага адчужэння асноўныя групы насельніцтва Гродна перагарнулі наступную старонку гісторыі горада: верасень 1939 года. Яўрэі, хаця і былі моцна падзеленыя сацыяльна (самыя багатыя і самыя бедныя гродзенцы), сустрэлі Чырвоную Армію… спакойна. Як мінімум, не супрацоўляліся, як максімум — дапамагалі. Шмат для каго гэта быў «маўклівы рэванш» за папярэднія крыўды і прыніжэнні.

Ежы Кежкоўскі ўзгадвае, што яўрэі, якія прытрымліваліся камуністычных поглядаў, нападалі на польскія часткі, што адыходзілі з Гродна ў верасні 1939-га. Калі ж прыйшлі Саветы, пачаліся арышты і канфіскацыі, мясцовыя на новую ўладу «ўзлазаваліся». «…А кожны яўрэй, які раней меў краму, пры Саветах адразу стаў начальнікам, — працягвае Ежы Мар'янавіч. — Хутка яны адмаўляліся ад крамаў. Казалі, што яны старыя марксісты, і дзесьці дакументы знаходзілі. Яўрэям больш верылі, чым падпольшчыкам-беларусам і палякам».

Падобнымі ўспамінамі дзеліцца і Генрых Юхневіч, распавядаючы, як яўрэі паставілі ля сінагогі кулямёт, каб страляць па адыходзячых палякаў. Стралялі, маўляў, таксама з вокнаў, а палякі — у адказ: «У нас з дому гэта ўсё добра было відаць. Ужо пасля прыходу бальшавікоў адных малых яўрэйчыкаў мы білі за тое, што яны спявалі камуністычныя песні. Памятаю, на Замкавай мне казалі яўрэі: "Няма тваёй Польшчы, у дупе твая Польшча!" Біліся за гэта».

Узгадвае пра ролю яўрэяў у 1939 годзе і Стэфан Хоцей, адзін з удзельнікаў абароны горада: «…А тое, што ў Гродна прыйдуць Саветы, то мы нават і паняцця не мелі. (…) Тады ніхто нічога не ведаў. Толькі камуністы і яўрэі рыхтаваліся да прыходу Саветаў. Апранálі чырвоныя павязкі, стварылі сваю міліцыю і паказвалі, як праехаць. Казалі, што на іншай частцы берага Нёмана, каля тытунёвай фабрыкі, яны нават паставілі прывітальную браму Саветам».

Згодна з гарадской легендай, той самы Штэйнер, які забіў Уладзіслава Кушча ў 1935-м і быў асуджаны на 12 гадоў турмы, у 1939-м асабіста ехаў на савецкім танку і паказваў чырвонаармейцам дарогу. Зразумела, што легенда не мае ніякіх пацвярджэнняў і, найхутчэй, з'яўляецца цалкам фальклорным сюжэтам. Разам з тым, як гэта часта бывае з міфамі, гэта вельмі цікавае сведчанне пошуку ўзаемных сувязяў паміж цалкам рознымі падзеямі, якое дапамагае лепш адчуць логіку аднаго з канфліктуючых бакоў.

І яшчэ адна цікавостка. Абаронцаў Гродна 1939 года, якія дажылі да суда, а не былі раскатаныя танкамі ці расстраляныя па ўскрайках гораду, новая ўлада звінаваціла не ва ўзброеным супраціве, іх не ўзялі ў палон як вайскоўцаў. Паводле савецкай прэсы, у горадзе, паміж адыходам польскіх рэгулярных частак і прыбыццём Саветаў, адбываліся… пагромы. Так, менавіта пагромы, «справакаваныя бела-палякамі ды люмпенамі». Адно, што выракі «пагромшчыкам» былі зусім не такія мяккія, як сапраўдным пагромшчыкам у 1935 годзе. Сумная іронія лёсу.

### Памятаць 1935-ы, каб зразумець 1939-ы і 1941-ы

У Гродне на вуліцы Замкавай сёння можна заўважыць мемарыяльную шыльду ды сімвалічны «ўваход у гета». Каля яе амаль штодня спыняюцца турыстычныя групы. Халакосту ў Гродне прысвечаныя папулярныя і навуковыя публікацыі, кінгі, ёсць нават анімаваныя экскурсіі. Памяць пра пагром 1935-га і міжваенны антысемітызм як з'яву — наўпрост адсутнічае. Пра гэта няма нічога ані ў дзяржаўным Гісторыка-археалагічным музеі, ані ў Музеі гісторыі рэлігіі, ані ў музейчыку, што месціцца ў дзеючай харальнай сінагозе. Нават у працы гісторыка Іллі Мараша «Старонкі гісторыі Гродзенскай яўрэйскай грамады» пагрому прысвечаны ўсяго адзін абзац. Эканамічнаму байкоту з боку палякаў у 1930-я — адзін сказ… Дзяржаўныя выданні, як і выданні польскай меншасці, пра гэтыя падзеі таксама маўчаць. У гарадской прасторы памяць пра пагром аніякім чынам не пазначана.

У прэсе ды папулярных выданнях вельмі часта малюецца ідылічны вобраз міжваеннага Гродна. Ідэальны горад, дзе пахне кавай, з рэстаранаў гучыць музыка, а ў крамах поўна апельсінаў ды ананасаў. Пасля прыйшлі «злыя» Саветы, пачаліся арышты, высылкі ды рэквізіцыі. А пасля прыйшлі яшчэ больш «злыя» немцы, зачысцілі тых, хто застаўся, а яўрэяў наогул вынішчылі пад корань. Падаецца, што гэта вельмі спрошчаная мадэль, якая пакідае занадта шмат пытанняў. Хто і чаму сустракаў Саветы ў 1939-м? Чаму частка гродзенцаў лаяльна паставіліся да нямецкай палітыкі ў дачыненні да яўрэяў, а пры нагодзе скарысталася магчымасцю атрымаць з гэтага эканамічны профіт?

Ці здольныя мы без разумення міжэтнічных канфліктаў 1930-х зразумець падзеі 1939 года ды наступныя 1941–1944-га? Калі зыходзіць з таго, што перадгісторыю ўсё ж варта ўлічваць, то трэба ўсяго толькі не заплюшчваць вочы на непрыемныя для некага гістарычныя падзеі, паспрабаваць разабрацца ў іх, навучыцца размаўляць паміж сабою (супольная канферэнцыя беларускіх, польскіх і яўрэйскіх гісторыкаў магла б стаць добрым пачаткам), усё памятаць, і — усё прабачыць.

# «Тэатр ператварае натоўп у народ»

## Да 135-годдзя з дня нараджэння Фларыяна Ждановіча



**Па гарызанталі:** 1. Буйны беларускі горад, дзе 135 гадоў таму, 28 кастрычніка 1884-га, нарадзіўся выдатны беларускі рэжысёр, акцёр, адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага тэатра Фларыян Паўлавіч Ждановіч. 3. «Выходзіш на сцэну, як на эшафот, // І роднае ..., як зерне ў раллю, // Ты сееш у сэрцы». З верша Віктара Шніпа «Балада Фларыяна Ждановіча». 6. ... Буйніцкі. Імя стваральніка беларускага прафесійнага тэатра, акцёра, рэжысёра, на багатую практыку якога абапіраўся Фларыян Ждановіч. 10. Навучанне. 11. Падлетак (размоўнае). 12. «... — усяму настаўнік». Гай Юлій Цэзар. 16. «... вызвалення Беларусі». Міфічная, прыдуманая сталінскімі катамі арганізацыя, за быццам удзел у якой быў рэпрэсаваны Фларыян Ждановіч; расстраляны ў Мінску як «вораг народа». Рэабілітаваны. 17. Увосень за ... просім (прыказка). 20. Літара грэчаскага алфавіта. 21. Харчовы прадукт. 22. Іван ... Адзін з псеўданімаў Фларыяна Ждановіча. 27. Імя малодшага брата Фларыяна Ждановіча, выдатнага акцёра Купалаўскага тэатра, які, як і Фларыян, быў расстраляны сталіністамі ў Мінску ў 1937 годзе. Рэабілітаваны. 28. Імя дачкі Фларыяна Ждановіча, артысткі-купалаўкі, Народнай артысткі Беларусі, якая аддала сцэне Купалаўскага тэатра больш за 40 гадоў свайго жыцця. 29. Кастрычнік — ... бліжняй парошы (прыказка).

**Па вертыкалі:** 1. Станіслаў ... Беларускі і польскі кампазітар, ураджэнец Мінщчыны, заснавальнік беларускай нацыянальнай оперы; сёлета краіна адзначыла 200 гадоў з дня яго нараджэння. 2. Адна партыя якой-небудзь гульні. 4. Кастрычнік зямлю беліць, а ... залоціць (прыказка). 5. Законченая частка спектакля, драматычнага твора. 7. ..! Выклічнік, які выражае здагадку, здзіўленне. 8. «... ператварае натоўп у народ». Томас Ман. 9. ... пахне яблыкам, кастрычнік — капустай (прыказка). 13. Вядомая камедыя Янкі Купалы. Упершыню пастаўлены рэжысёрам Фларыянам Ждановічам спектакль «...» гледачы ўбачылі ў 1913 годзе, у пажарным будынку Радашковіч. 14. «Тэатр павінен прасвятляць ...». Рамэн Ралан. 15. «Тэатр — адзінае ..., дзе бедныя звысоку глядзяць на багатых». У. Роджарс. 18. Карусь ... Беларускі драматург, паэт, грамадскі дзеяч, які за ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху адбываў пакаранне ў мінскай турме. Паводле яго вадэвіля «Модны шляхцюк» Фларыян Ждановіч паставіў спектакль. 19. Адна з п'ес Уладзіслава Галубка, па якой Фларыян Ждановіч паставіў спектакль. Уладзіслаў Галубок, акцёр, рэжысёр, першым на Беларусі атрымаў званне Народнага артыста, быў мастацкім кіраўніком і дырэктарам Купалаўскага тэатра. Таксама, як і браты Ждановічы, расстраляны ў 1937 годзе, і яго, як і іх парэшткі, спачываюць, магчыма, у Курапатах. 23. Скіфская багіня зямлі і ўрадлівасці. 24. Званне, звязанае з пачэсным становішчам. 25. Аповесць Элізы Ажэшкі, паводле якой Фларыянам Ждановічам быў створаны спектакль. Прэм'ера спектакля адбылася ў 1921 годзе ў Беларускім дзяржаўным тэатры (сёння —Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы). 26. Нота музычнай гамы.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Імшарамі верасень крочыць» (НЧ №36 ад 27 верасня):**

Па гарызанталі: 1. Верасень. 4. Жнівень. 8. Сонца. 9. Месяц. 11. Нерат. 13. Нота. 14. Адзінка. 15. Адам. 18. Маці. 20. Локан. 22. Астры. 23. Чаша. 25. Лава. 27. Вресень. 31. Пара. 35. Качар. 36. Колас. 37. Гумно. 38. Грыбнік. 39. Альтанка.

Па вертыкалі: 1. Восень. 2. Ранет. 3. Сказ. 5. Віно. 6. Народ. 7. Яслі. 9. Мёд. 10. Цюк. 12. Туман. 16. Лірык. 17. Плечы. 19. Акт. 21. Кош. 22. Адлік. 24. Пароша. 26. Вечар. 28. Рык. 29. Соль. 30. Нос. 32. Абмен. 33. Краб. 34. Агат.

# БагатаДата

**Першымі рэйсавымі аўтобусамі ў Мінску былі «Рэно», «Фіяты» і «Форды». А яшчэ на гэтым тыдні адзначаецца Дзень млынароў. Вы ведалі пра такое свята? Больш цікавостак — у традыцыйным аглядзе.**

### 19 кастрычніка

**1909.** У вёсцы Іванкава Калужскай вобласці Расіі нарадзіўся беларускі сцэнарыст і перакладчык Міхась Блісцінаў. Напісаў сцэнар мастацкага фільма «Строгая жанчына». Пераклаў на беларускую мову «Пятра Першага» Аляксея Талстога і «Як гартавалася сталь» Мікалая Астроўскага.

### 20 кастрычніка

**Міжнародны дзень кухараў,** а таксама **авіядыспетчараў і барацьбы з астэапарозам.**

**2004.** Была забіта беларуская журналістка Вераніка Чаркасава. Працавала на БТ, затым у незалежнай прэсе. Забітая ва ўласнай кватэры ў Мінску. Следства распрацоўвала бытавую версію забойства, падазраючы сваякоў. Журналісцкая супольнасць меркавала, што яго мог учыніць кілер пасля таго, як журналістка сабрала інфармацыю пра датычнасць беларускага «Інфабанку» да незаконнага гандлю зброяй з Іракам.

### 21 кастрычніка

**1914.** У эстонскім горадзе Валга нарадзіўся каталіцкі дзеяч Казімір Свёнтак. Падчас Першай сусветнай вайны яго сям'я была ў эвакуацыі і апынулася ў Беларусі. Свёнтак вучыўся ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску, у 1939 годзе быў пасвечаны ў святары і пачаў службу ў Пружанах. Быў сасланы ў лагер, вярнуўся ў Беларусь у 1954-м. У 1994 годзе першым у Беларусі атрымаў ад Папы Рымскага сан кардынала.

**1919.** У Мінску пачала выходзіць газета «Беларусь». Выходзіла штодня. Пазіцыянавалася як палітычна-эканамічнае і літаратурнае выданне. Тут друкаваліся Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, Францішак Аляхновіч, Уладзіслаў Галубок. Газета выступала за незалежнасць Беларусі. Спыніла існаванне ўлетку 1920 года праз прыход у Мінск бальшавікоў.

### 22 кастрычніка

**Міжнародны дзень людзей, якія заікаюцца.**

**1919.** У Пружанах на Брэстчыне нарадзілася Раіса Жук-Грышкевіч (у дзявоцтве — Жукоўская), дзяячка беларускай эміграцыі. З 1949 года жыла ў Канадзе, дзе скончыла ўніверсітэт, стала лекаркай-дантысткай. Выйшла замуж за беларуса з падобным да свайго прозвішчам — Вінцэнта Жука-Грышкевіча, старшыню Рады БНР у 1971–1982 гадах. Раіса Жук-Грышкевіч кіравала Задзіночаннем беларускіх жанчын Канады, узначальвала Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады.

### 23 кастрычніка

**1909.** У вёсцы Вялікае Сяло Шаркаўшчынскага раёна нарадзіўся вайсковы і грамадскі дзеяч Міхась Зуй. Падчас Другой сусветнай вайны кіраваў Беларускай народнай Самапомачу ў мястэчку Германавічы, затым — Шаркаўшчынскім паветам. Удзельнічаў у ваеннай школе-батальёне «Дальвіц», пасля раззбраення якога ў Чэхіі апынуўся ў савецкай арміі. Адтуль дэзерціраваў, здолеў перабрацца ў Аўстралію. Быў прэзідэнтам Беларускай цэнтральнай рады — арганізацыі, створанай за нямецкай акупацыяй як мясцовая адміністрацыя і якая затым фармальна існавала на эміграцыі.

**1924.** У Мінску пачалі ездзіць рэйсавыя аўтобусы. Савецкіх тады яшчэ не было, а таму па сталіцы БССР курсіравалі «Форды», «Фіяты», «Рэно».

### 24 кастрычніка

**Дзень Арганізацыі аб'яднаных нацыяў.**

**1994.** Памёр беларускі пісьменнік, перакладчык і кінасцэнарыст Анатоль Вялюгін. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы за паэму «Вецер з Волгі». Па яго сцэнарах былі зняты мастацкія фільмы «Рэха ў пушчы» і «Глядзіце на траву», а таксама больш за 40 дакументальных стужак.

### 25 кастрычніка

**Дзень млынароў у Беларусі.**

**1884.** У вёсцы Наройкі (цяпер Падляшскае ваяводства Польшчы) нарадзіўся беларускі археолаг і гісторык Сяргей Дубінскі. Выдаў першую «Бібліяграфію па археалогіі Беларусі і сумежных краін». У 1930 годзе арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі», але вызвалены. Пераехаў у Ленінград, працаваў у Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. Зноў арыштаваны ў 1937-м і расстраляны.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1692

Падпісана да друку 18.10.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.